Вялікія клятвы каля труны Кірава дала краіна вуснамі лепшых сваіх людзей. Партыя і народ далі клятву ісці да канца па таму шляху, якім ішоў Кіраў, па шляху яго настаўнікаў—Леніна і Сталіна. Партыя і народ далі клятву яшчэ больш рашуча расправуляцца з подлымі ворагамі, якія мецяць свае стрэлы ў самае сэрца рэволюцыі. Партыя і народ далі клятву моцна трымаць у руках вялікі сцяг комунізма, на якім гараць кроплі крыві Кірава, і данесці гэты сцяг да таго дня, калі ён будзе развявацца над усім светам.

Гэтыя клятвы партыя і народ выконваюць і будуць выконваць верна і непарушна. Збываюцца мары і жаданні Кірава. Самай заветнай з іх былі яго словы:

«Таварышы, многа вякоў таму назад вялікі матэматык марыў знайсці пункт апоры, каб, апіраючыся на яго, павярнуць зямны шар. Прайшлі вякі, і гэта апора не толькі знойдзена, але створана нашымі рукамі. Не пройдзе многа гадоў, калі мы з вамі, апіраючыся на завяяванні соцыялізма ў нашай советскай краіне, абодва земныя поўшар'і павернем на шлях комунізма».

Кожны дзень усё больш шпаркімі крокамі набліжае нас да гэтага заветнага моманту. Мы ўпэўнена паварочваем і, наперакор супраціўленню ваўкоў і змеяў капіталізма, павернем увесь свет на шлях комунізма. Упэўненасць наша грунтуецца на тым, што і пункт апоры, і рычаг створаны большэвікамі, што рычаг гэты ў руках партыі, у радах якой на перадавой лініі працаваў, змагаўся, гарэў і памёр на пасту Сергей Міронавіч Кіраў. На рычагу гэтым —рука Сталіна і дзесяткі мільёнаў рук непераможнага советскага народу.

**(Перадавы артыкул «Правды»).**

# ЁН БУДЗІЎ І КЛІКАЎ

Жыва памятаю бліскучыя выступленні Кірава на народным з'ездзе Терскай вобласці ў Маздоку ў 1918 г. Гэтыя выступленні будзілі, клікалі на барацьбу працоўных горцаў, казакаў, рабочых. Адзін сівы, стары горац, памаладзеўшы пасля прамовы Сергея Міронавіча, лёгкім поступам горца ўзабраўся на трыбуну з'езда і ў сваёй адрывістай гартаннай прамове кляўся ў адданасці справе рабочага класа, советскай уладзе.

Незабыўны вобразы палкай і магутнай прамовы Кірава на заключным пасяджэнні, калі ён заклікаў дэлагатаў з'езда да апошняй кроплі крыві змагацца за свабоду. Ён прывёў прыгожую стаража́ытную легенду аб Праметэі, як увасабленні свабоды, прыкаваным да скалы на вяршыні Казбека, чыё змардаванае цела нястомна клюе арол. І маладыя, і старыя, і горцы, і казакі, і рабочыя ўскаквалі з месц і ў нястрымным запале да перамогі над векавой цемнатой крычалі на розных мовах сваё прывітанне большэвікам, Леніну і скромнаму прамоўцу, які клікаў іх на барацьбу за вызваленне чалавецтва.

З'езд галасаваў у сваёй пераважнай большасці за прапанову большэвікоў і паслаў тэлеграму Совету Народных Камісараў — Леніну, вітаючую Кастрычніцкую рэволюцыю і ўладу Советаў. І цяпер ужо не дзесяткі, а сотні агітатараў раз'ехаліся па аулах змагацца за справу, пачатую Леніным. Гэтыя агітатары пранікалі глыбока ў станіцы, аулы, лясы і горы і ўсюды збіралі дэлегатаў на з'езд у Пяцігорск.

Пазней прыходзілася сустракацца і бачыць тав. Кірава ўжо ў іншай абстаноўцы. Войскі інтэрвентаў, банды айчынных генералаў, памешчыкаў і капіталістаў разгромлены і раздаўлены рабочымі і сялянамі советскай краіны. Трэба было ўмацоўваць советскую ўладу, аднаўляць прамысловасць і сельскую гаспадарку. К канцу 1920 г. я сустрэў Кірава ўжо як члена Каўказскага бюро ЦК ВКП(б).

Разам з тав. Серго Орджанікідзе Кіраў стаў кіраўніком комуністычнай арганізацыі былой Горскай рэспублікі, затым прадстаўніком советскага ўрада ў меншавіцкай тады Грузіі і потым зноў кіраўніком большэвіцкай арганізацыі на Паўночным Каўказе. І ўсё тая-ж нязменная бадзёрасць, скромнасць, усё тая-ж непахіснасць у барацьбе за справу рабочага класа, за справу партыі **Леніна,** у барацьбе супроць якіх-бы там **ні было** адхіленняў ад лініі партыі.

**Н. Ф. ГІКАЛО.**

**(«Правда»).**

# НЯЎЛОЎНАЯ ДРУКАРНЯ

**(З УСПАМІНАЎ тав. М. А. ПАПОВА).**

У адзін з майскіх дзён 1906 года да невялікага, незаселенага дома на ўскраіне Томска падышла група рабочых з інструментамі. Яны прыступалі да рамонту. Новы домаўласнік, які толькі што купіў гэты дом, відаць, рашыў нанава аддзелаць старое, закінутае «ўладанне». І толькі нямногія ведалі, што «новым домаўласнікам» быў Томскі камітэт расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі, а «будаўнічымі рабочымі» — члены гэтай партыі Кіраў, Рэшэтоў, Шпілер і Папоў (аўтар гэтага артыкула. — **Рэд**).

Яны наладжвалі тут падпольную друкарню. Шпарка ўскрылі падлогу ў закінутым доме і пачалі капаць глыбокі падвал па ўсёй плошчы будынка. Работа была цяжкая. Прадстаяла выкінуць велізарную масу зямлі і ўмацаваць скляпенні падвала цаглянымі слупамі.

Цэлымі днямі працавалі ў доме «будаўнічыя рабочыя», і ў суседзей гэта работа не выклікала ніякіх падазрэнняў.

Работа ішла — цяжкая, спешная работа. Праз тыдзень пасля яе пачатку Серожа Кострыкаў да крыві збіў сабе рукі. Раны крывавіліся, балелі,—ён цэлыя ночы не мог заснуць. Але ніякія ўтаворы таварышоў не маглі яго прымусіць адпачыць. Ён абмотваў зраненыя рукі анучкамі і зноў браўся за рыдлёўку. Нарэшце, праз паўтара-два месяцы падпольная (у літаральным сэнсе гэтага слова) друкарня была пабудавана на-славу: сцены былі абшыты дрэвам, над столлю насыпалі пласт гліны таўшчынёй больш метра.

Патайныя дзверы былі нашай гордасцю.

Серожа Кострыкаў з велізарнай вынаходлівасцю наладзіў тут тайную электрычную сігналізацыю, вентыляцыйнае абсталяванне, прадугледзеў кожную дробязь для таго, каб забяспечыць паспяховую работу друкарні. Устанавілі «ўнутраны распарадак». У верхняй частцы дома павінны пасяліцца людзі, якія непасрэдна не працуюць у друкарні. Якія-небудзь «благанадзейныя», якое-небудзь «сур'ёзнае» сямейства, якое магло-б стварыць карціну ціхата мяшчанскага дабрабыту. У частцы дома, звязанай з друкарняй, павінны былі жыць самі «друкары». У выпадку паяўлення паліцыі яны павінны былі па сігналу схавацца ў друкарні і не выходзіць з яе, пакуль не мінуе небяспека.

Абсталяванне было гатова. Аднойчы ціхім летнім вечарам прыехаў да нас з Піцера таварыш, прывёз газеты, навіны сталічнага жыцця. Зрабіў нам цікавы даклад. На світанні леглі спаць. Але раніцой нас разбудзіў Сергей Міронавіч:

— Паліцыя! Дом акружан!

Сергей Міронавіч з ярасцю глядзеў на твары паліцэйскіх. Праз некалькі дзён друкарня павінна была прыступіць да работы. Ранішні «візіт» апракідваў усе разлікі.

— Што вы тут робіце?—груба запытаў паліцэйскі чын.

— Працуем на рамонце.

— Хто вы такія?

На гэта пытанне мы адмовіліся адказваць, прычым асаблівую «дзерзкасць» у адносінах да паліцыі праявіў Сергей Міронавіч. На вобыск прыгналі ўзвод салдат. Увесь дзень яны капаліся ў доме. Ускрылі падлогу над друкарняй, выкапалі яму ў аршын і ўсё такі друкарні не знайшлі.

— Дзіўна, — цадзіў скрозь зубы жандарскі афіцэр. — Добра схавалі канцы ў ваду паны «рамонтныя рабочыя».

Кіраў, Шпілеў, і я былі арыштаваны. Ні ахранка, ні жандарская ўправа, ні суд не маглі прад'явіць нам абвінавачання з-за адсутнасці доказаў. Пасля гадовага турэмнага зняволення Шпілеў і я былі вызвалены, а Сергей Міронавіч астаўся «даседжваць»: па іншых справах яго рэволюцыйнай работы ён быў прыгавораны да трох гадоў крэпасці.

Тым часам падпольная друкарня працавала. І толькі ў 1909 годзе адбыўся правал—у літаральным сэнсе гэтага слова. «Падазроны дом» быў заселен гарадавымі і сям'ёй пісьмавода паліцэйскага ўчастка. Аднойчы гарадавы, які пражываў у ніжнім паверсе, адчуў «землетрасенне». Гэта абвалілася столь у падпольнай друкарні; затым рухнула печ, і ўвесь дом атрымаў значную асадку. Выклікалі пажарную каманду, разабралі ўвесь будынак і... знайшлі тое, што беспаспяхова шукалі чатыры гады назад. Паліцыя, нарэшце, атрымала «рэчавы доказ». І зноў разам з Сергеем Міронавічам мы былі арыштаваны і аддадзены пад суд.

**«СТАХАНАЎСКІ РУХ — ГЭТА ТАКІ РУХ РАБОЧЫХ І РАБОТНІЦ, ЯКІ СТАВІЦЬ СВАЁЙ МЭТАЙ ПЕРАМАГАННЕ ЦЯПЕРАШНІХ ТЭХНІЧНЫХ НОРМ, ПЕРАМАГАННЕ ІСНУЮЧЫХ ПРАЕКТНЫХ МАГУТНАСЦЕЙ, ПЕРАМАГАННЕ ІСНУЮЧЫХ ВЫТВОРЧЫХ ПЛАНАЎ І БАЛАНСАЎ» (СТАЛІН).**

# Стаханаўцы ў фабрычнай газеце

Магутнай хваляй разліўся па краіне стаханаўскі рух. Пачын перадавых рабочых нашай краіны знайшоў жывы водгук у шырокіх масах рабочага класа краіны і выліўся ў масавы рух за высокую прадукцыйнасць працы, за перавышэнне ўстарэлых норм і тэхнічных «прэдзелаў».

Стаханаўцы — новыя людзі. Стаханаўцы — людзі, вырашчаныя нашай рэвалюцыяй, нашай партыяй, людзі культурныя і тэхнічна падрыхтаваныя, людзі, якія гатовы аддаць справе сацыялістычнага будаўніцтва ўсе свае сілы, веды, вычарпаць з тэхнікі ўсё, што яна можа даць.

І таму зусім зразумелы і поспех стаханаўцаў і чаму стаханаўскі рух знайшоў такі жывы водгук па ўсёй краіне, чаму стаханаўцы сталі самымі ганаровымі людзьмі ў кожным рабочым калектыве.

Роля друку, асабліва фабрычна-заводскага, у разгортванні стаханаўскага руху выключна вялікая. Якую вялікую дапамогу стаханаўскаму руху аказаў друк — відаць хоць-бы з прамовы тав. Орджанікідзе на першай нарадзе стаханаўцаў.

У сёнешнім аглядзе мы хочам паказаць некаторыя крупіцы станоўчага вопыту з практыкі нашых фабрычна-заводскіх газет.

А такі вопыт ужо ёсць.

Газета фабрыкі «Дняпроўская мануфактура» **«За промфінплан»** ахапляе на сваіх старонках шмат цікавых пытанняў. Калі разгарнулася падрыхтоўка да святкавання 18-й гадавіны Вялікай пролетарскай рэволюцыі, газета звярнулася з заклікам:

«Масавым паходам за ўздым прадукцыйнасці працы, паляпшэнне якасці прадукцыі, зніжэнне сабекошту, здачу дзяржаўнага тэхнічнага экзамена пачнем падрыхтоўку да вялікага пролетарскага свята — 18-ай гадавіны Кастрычніка».

У тым-жа нумары змешчаны перадавы артыкул «Насустрач 18-ай гадавіне Кастрычніка», дзе разбіраюцца ўсе пытанні, высунутыя ў закліку.

Праходзяць некалькі дзён. У цэнтральным друку з'явілася невялічкая заметка аб рэкордзе ткачыхі Вінаградавай.

Газета перадрукоўвае гэта паведамленне буйным шрыфтом і змяшчае ў шпігелі першай старонкі. Бясспрэчна, што гэта паведамленне будзе прачытана раней, чым усе астатнія матэрыялы, а пра Вінаградавых будуць ведаць усе работніцы. У тым-жа нумары, пад «шапкай»—«Ткачы 4-га камплекта перайшлі на абслугоўванне 3-х варштатаў», газета друкуе пісьмо падмайстра 4-га камплекта Ш. Норына, які абавязваецца:

> **«...зрабіць усё, што магчыма для паспяховай работы камплекта і адначасова патрабую ад адміністрацыі забяспечыць нас дапаможнымі матэрыяламі, асабліва чаўнакамі».**

Тут-жа, замест перадавога артыкула надрукавана пісьмо калектыва 4-га камплекта «Да ўсіх ткачоў і падмайстроў варштатаў «Нортроп». Першыя стаханаўцы фабрыкі ў сваім пісьме пішуць:

> **«Ткачы варштатаў «Нортроп» у нашых умовах маюць усе магчымасці працаваць на 12, 15 і 20 варштатах. Для гэтага патрабуецца, каб кожны падмайстра наладжваў і рамантаваў абсталяванне толькі на «выдатна», каб кожная ткачыха правільна захоўвала рэжым работы».**

Праз некалькі дзён ужо не толькі 4, але і 6—7 камплекты працуюць на 12 варштатах.

І газета пад «шапкай» «Рашуча і смела ўнядраць на вытворчасць метады Вінаградавых» паказвае разгортванне спаборніцтва за большую прадукцый-

насць працы, за работу па-вінаградаўску.

Жыццё ідзе надзвычай хутка. Праз 8 дзён у перадавым артыкуле «Працаваць па-новаму, па-вінаградаўску» «За промфінплан» піша:

> **«Два тыдні таму назад лепшыя ткачыхі 6 і 7 камплектаў перайшлі на абслугоўванне 12 варштатаў. Сёння ткачыхі 7 варштата — Мінковіч Жэня, Паўлоўская Анюта, Пушэчкіна Гольда і Аўласенка перайшлі ўжо на 20 і 16 варштатаў. Рыхтуюцца да пераходу на большую колькасць абсталявання ткачыхі 6 камплекта Крымчанка Каця, Шэйніна і некаторыя другія матальшчыцы».**

Рабочыя вітаюць перадавікоў-стаханаўцаў. Але класавы вораг пускае правакацыйныя чуткі, імкнецца сарваць стаханаўскі рух. І ў тым-жа артыкуле мы чытаем:

> **«Людзі, якія будуць перашкаджаць вінаградаўцам у гэтай вялікай справе, павінны быць убраны з дарогі».**

Гэтыя словы выдзелены і падкрэслены. І падкрэслены яны зусім правільна. Канчаецца перадавы артыкул так:

> **«Гарачае пролетарскае прывітанне вінаградаўцам нашай фабрыкі».**
>
> **«Акружым стаханаўцаў-тэкстыльшчыкаў любоўю і ўвагай».**

Бясспрэчна, што, так сістэматычна і ўмела будуючы сваю работу, газета «За промфінплан» зрабіла карысную і каштоўную справу.

* * *

Упершыню аб стаханаўскім руху газета рэчыцкай запалкавай фабрыкі **«Чырвоны Окцябр»** выступіла 11 кастрычніка, змясціўшы агульны перадавы артыкул **«Укараніць стаханаўскі метад работы»**. У наступным нумары газета змяшчае «адкрытае пісьмо стаханаўцаў, ударнікаў-выдатнікаў і перадавых рабочых фабрыкі «Да ўсіх рабочых, работніц, майстроў, тэхнікаў, інжынераў і гаспадарнікаў» Рэчыцкага раёна.

У гэтым пісьме гаворыцца аб дасягненнях стаханаўцаў Новікава, Грыба і іншых рабочых фабрыкі. Канчаецца пісьмо заклікам:

> **«Будзем змагацца за нябачаную ў свеце прадукцыйнасць працы, за культурнае і заможнае жыццё.**
>
> **Зробім стаханаўскі, бусыгінскі метад работы метадам мас»,**

**СТАХАНАЎКА ІЛЬНАВОДСТВА**



**Следуючы прыкладу лепшых стаханавак ільнаводства ў калгасе «Віцебскі пролетарый», Лёзнянскага раёна, на новыя метады работы перайшла Марына Ермалаеўна ПЯРЦОВА, якая натрапала за дзень 42 кілограмы і 200 грамаў 10 нумарам. На здымку: Марына Ермалаеўна на трапанні ільну.**

—о—

Пад пісьмом шмат подпісаў. Але з подпісаў не відаць, хто стаханавец, хто проста радавы рабочы. Да змяшчэння-ж пісьма чытач не бачыў у газеце стаханаўца, яго работы і разгортвання стаханаўскага руху.

Але гэту памылку газета выправіла ў сваёй далейшай рабоце. У наступным нумары паказан вопыт работы стаханаўкі Федарэнка, якая перайшла на 4 машыны, змешчан артыкул «Сабатажнікам стаханаўскага руху — рашучы адпор».

У тым-жа нумары змешчана своеасаблівая зводка: «Заработак стаханаўцаў рэзка павялічыўся». На прыкладзе 9

стаханаўцаў газета паказала, наколькі павялічыўся заработак пры больш высокай прадукцыйнасці працы. Такі канкрэтны паказ — карысная і патрэбная справа.

У наступным, святочным нумары газеты больш палосы матэрыялу прысвечана стаханаўцам, іх рабоце і жыццю.

У адным з нумароў (14 лістапада) змешчана пісьмо начальніка «Главспічпрома» да стаханаўца Захарэнкі і адказ Захарэнкі на гэта пісьмо.

Такім чынам газета «Чырвоны Окцябр», няўпэўнена і няўмела пачаўшы работу са стаханаўцамі, своечасова выправіла памылкі і, праявіўшы багатую ініцыятыву, бясспрэчна дапамагла разгортванню гэтага грандыёзнага руху.

***

Вопыт гэтых двух газет не вычэрпвае ўсяго, што маглі зрабіць усе нашы газеты і зрабілі многія з іх. Але павучальны канкрэтнасць і ўмелае выкарыстанне матэрыялаў.

Гаворачы аб станоўчым вопыце газет «За промфінплан» і «Чырвоны Окцябр», неабходна адзначыць неахайнасць і бязграматнасць таварышоў, якія робяць гэтыя газеты.

**Аб стаханаўцах трэба пісаць культурна, граматна, з вялікай любоўю да справы,** бо гэта перадавыя, лепшыя людзі нашай краіны.

Між тым у вочы кідаюцца такія прыкрыя апячаткі, промахі, недакладнасці, што крыўдна становіцца за рэдактароў гэтых газет.

У пісьме да ўсіх рабочых Рэчыцкага раёна (аб якім мы тварылі вышэй) «Чырвоны Окцябр» расказвае пра стаханаўца Новікава. Але ў подпісах Новікава не аказалася. Няўжо тав. Новікаў не варты падпісаць такое пісьмо? Вярней было-б, калі-б ён быў першым у гэтым ганаровым спісе.

У канцоўцы таго-ж пісьма сказана:

**«...за аўладанне новымі метадамі работы, па-баявому змагацца за ленінскі, сталінскі лозунг «дагнаць і перагнаць», за найменшую затрату рабочага і машыннага часу, за найвялікшую і лепшую выпрацоўку».**

Незразумела: па-першае, **«дагнаць і перагнаць»** каго і ў чым, па-другое, што гэта за **«машынны час»?**

У тым-жа пісьме замест «стаханаўскабусыгінскі метад работы дае ўсе магчымасці ажыццявіць на практыцы **лозунг вялікай партыі Леніна—Сталіна»,** надрукавана:

«Стаханаўскі-бусыгінскі метад работы дае ўсе магчымасці ажыццявіць на практыцы **лозунг Вялікага Леніна—Сталіна».**

Або ў другой заметцы (№ 41) напісана: **«але класаваму ворагу не пад сілу стаханаўскі рух».**

Мы разумеем, што рэдакцыя хацела сказаць — класавы вораг супроць стаханаўскага руху. Але-ж нельга гаварыць такой мовай.

Многа, выключна многа недакладнасцей і прыкрых апячатак.

Крыху лепш у гэтых адносінах у газеце «За промфінплан». Аднак, і яна не вызначаецца акуратнасцю, граматнасцю. Так, у «шапцы» замест **«прадукцыйнасці працы»** мы чытаем: «вытворчасцю працы». Кожнаму зразумела, што гэтыя словы маюць не аднолькавае значэнне.

Такіх прыкладаў многа.

***

Прамова тав. Сталіна на парадзе стаханаўцаў дала разгорнутую праграму барацьбы за далейшы ўздым прадукцыйнасці працы, за высокую культуру працы, за заможнае жыццё.

Задача нашых газет — на практычных прыкладах, на вопыце асобных людзей папулярызаваць стаханаўцаў сваёй вытворчасці, змагацца за перакрыццё старых аджыўшых норм выпрацоўкі, за стварэнне ўмоў, пры якіх стаханаўскі рух стаў-бы рухам усіх рабочых і работніц нашай радзімы.

**Л. ГЛЕЗЕР.**



# Вучыць і вырошчваць сотні і тысячы стаханавак

Імёны стаханавак ільнаводства Лёзнянскага раёна **Быкоўскай, Пярцовай, Кавалёвай, Паповай** і многіх іншых добра вядомы чытачам цэнтральнага і раённага друку.

Гэтыя новыя людзі соцыялістычнай вёскі апракінулі існаваўшыя гадамі «рэкордныя» нормы выпрацоўкі валакна. Шляхам правільнай арганізацыі працы на таку, сапраўды калгасных адносін да работы, яны дабіліся небывалых у БССР рэкордаў.

Стаханаўкі апрацоўкі ільну Лёзнянскага раёна сустрэлі на сваім шляху нямала перашкод. Напрыклад:

«У калгасе «Віцебскі пролетарый» была створана нездаровая атмасфера вакол стаханаўцаў і іх метадаў работы, гэтым самым тармазілі разгортванне стаханаўскага руху. У радзе выпадкаў гэта перайшло ў прамое ганенне на стаханаўцаў. Галоўнымі натхніцелямі зрыву стаханаўскіх метадаў работы ў калгасе з'явіліся: брыгадзір другой брыгады тав. Салаткоў Антон і калгасніца Кузняцова Марына».

(З пастановы бюро лёзнянскага РК КП(б)Б).

Але лёзнянская газета **«Ленінскі сцяг»** не зразумела, што адно толькі рашэнне райкома партыі «аб фактах супраціўлення стаханаўскім метадам работы і ганення на лепшых стаханаўцаў» з'яўляецца далёка недастатковым для аграджэння стаханавак ад цкавання і перашкод у рабоце.

Газета абавязана была на гэтых фактах вылазкі класавага ворага мабілізаваць усю грамадскасць, усіх добрасумленных калгаснікаў, выклікаць ярасць лепшых людзей нашай вёскі супроць недабіткаў класава-варожых элементаў.

Газета абавязана была нястомна прапагандаваць значэнне стаханаўскіх метадаў работы, як вышэйшай формы соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва і ўсімі сіламі абрушыцца на малейшыя спробы ахайвання значэння выдатнейшага руху энтузіястаў барацьбы за лён. «Ленінскі сцяг» пакуль што гэтага не зрабіў і ў гэтым яго буйнейшая памылка.

Раённая газета, яе рэдактар тав. **Мінчукоў** вельмі многа зрабілі ў справе паказу і перанясення метадаў работы лепшых трапальшчыц. Вялікае месца адвяла газета асвятленню перасялення Сцепаніды Быкоўскай у новы дом, атрыманы ад райвыканкома за ўдарную работу.

Газета здолела паказаць, як пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна выхаваны Быкоўскія, Пярцовы, Кавалёвы і шмат іншых. Быкоўская Сцепаніда, якая

«да калгаса жыла на 2-х гектарах зямлі, жыла бедна, у гнілой, старэнькай хатцы»,

стала знатным чалавекам.

«Так, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, на чале з вялікім і ўсімі любімым Сталіным — правадыром сусветнага пролетарыята, рабочыя і калгаснікі Совецкага Саюза дабіліся таго, што наша вялікая радзіма стала самай выдатнай, самай шчаслівай і самай магутнай краінай у свеце і ў ёй тысячы і сотні тысяч новых жанчын, сапраўдных гераінь працы, кіраўнікоў гаспадаркі і дзяржаўных дзеячоў».

Так адказаў кіраўнік большэвікоў Совецкай Беларусі тав. **ГІКАЛО** тт. Быкоўскай і Пярцовай на іх рапарт аб перамозе ў апрацоўцы ільну. І вялікая заслуга газеты ў тым, што яна дапамагла партыйнай арганізацыі выявіць, выхаваць і ўзняць на шчыт славы Быкоўскую, Пярцовых, Канькову і інш.

Аднак, паказваючы метады работы Быкоўскай і Пярцовай, газета забыла пра дзесяткі ўдарніц-трапальшчыц, узнятых раней самой газетай.

З «Дошкі стаханаўцаў ільнаводства» мы даведаліся, што яшчэ ў кастрычніку трапальшчыцы з калгаса «Беларуская вёска» **Каліненка** Еўгенія, **Менжынская** Вера, **Сінякова** Пелагея вытрапвалі ў дзень 17—18 кгр. 12—13 нумарам. **Швашчэнка** Варвара з калгаса імя Чарвякова вытрапвала ў дзень 20—21 кгр. нумарам 12. Такіх тра-

пальшчыц, па сцвярджэнню самой газеты, у раёне дзесяткі.

Але газета забыла аб іх, з імі не працуе, не выхоўвае іх і не дапамагае дабіцца рэкордных норм выпрацоўкі Быкоўскай і Пярцовай.

Непасрэдны абавязак усяго нашага бальшавіцкага друку заключаецца зараз у тым, каб·

«у самыя рашаючыя дні барацьбы за лён на подвігах герагінь ільнаводства Пярцовай Праскоўі (і многіх другіх — **Рэд.**) вучыць і выро-шчваць сотні стаханавак, герояў сацыялістычнага ільнаводства».

За гэтымі словамі самой газеты павінны паследаваць справы, належыць стасць у рэалізацыі гістарычных указанняў таварыша **СТАЛІНА** аб стаханаўскім руху. **Г. МАЛІКІН.**

# Стаханаука Марыя Шчуцкая

Калі Марыя **Шчуцкая** прачытала ў газеце аб стаханаўскім руху, яна сабрала сваю брыгаду і намеціла канкрэтны план работы.

— Стаханаўскі метад работы можна прымяніць і ў нас, у зборачным цэху, на нашых машынках, — гаварыла Марыя.

Пасля нарады ў насценгазеце была змешчана заметка аб тым, што брыгада Шчуцкай бярэ на сябе абавязацельства даць на адной машынцы за 420 мінут не менш 58 тысяч скрынак запалак. Брыгада просіць фабком і рэдакцыю газеты «Бальшавік Барысаўшчыны» арганізаваць ад іх імя адозву да ўсіх рабочых запалкавай прамысловасці і гор. Барысава аб уключэнні ў стаханаўскі рух.

Прапанова была падтрымана. На фабрыцы «Пролетарская перамога» і на прадпрыемствах Барысаўшчыны разгарнуўся стаханаўскі рух.

Хто такая Марыя Шчуцкая?

На запалкавай фабрыцы імя Кірава Марыя працуе пяць год. Спачатку яна працавала памочніцай машыністкі, а праз 4 месяцы, калі аўладала тэхнікай, сама стала машыністкай. Праўда, у першыя дні не ладзілася ў яе работа: то машынка дрэнна наладжана, то касеты з аўтаматнага цэха падаюць дрэнныя, то каробачны цэх дае дрэнныя каробкі. Тады Шчуцкая сігналізуе аб усім гэтым у насценнай газеце і шматтыражцы, якія дапамаглі ёй ліквідаваць гэтыя недахопы.

Яна добра асвоіла працэс вытворчасці, вывучыла сваю машынку. Шчуцкая — лепшая рабкорка, ударніца зборачнага цэха, ёю, як лепшай з лепшых, ганарыцца цэх. Абавязацельства, якое яна ўзяла на сябе, выконвае з гонарам. 58—59 тысяч скрынак запалак дае штодзенна Марыя (норма 50 тыс).

Шматтыражка **«Чырвоны Бярззінец»** выпускае штодзенны бюлетэнь па стаханаўскаму руху. У гэтым бюлетэні прымае актыўны ўдзел Марыя Шчуцкая.

Прыкладу яе стаханаўскай працы паследавалі **Халецкая** Оля — рэдактар насценгазеты, **Фіндзэіна, Кепіна** і іншыя, якія ўжо выпрацоўваюць па 57—58 тысяч скрынак у дзень.

Вядзе Шчуцкая барацьбу і з тымі, хто затрымлівае стаханаўскі рух.

У раённай газеце і шматтыражцы Шчуцкая абвінавачвае каробачны цэх у дрэннай рабоце, што выклікае вымушаныя прастоі. 3-га кастрычніка з-за адсутнасці скрынак прастаяла яна 30 мінут, 10-га кастрычніка ў чаканні скрынак патраціла 20 мінут, а 13-га кастрычніка — цэлую гадзіну.

Шчуцкая праз друк патрабуе ад адміністрацыі даваць добрыя касеты, своечасова рабіць бягучы рамонт машыны, бесперабойна забяспечваць машыну скрынкамі.

На злёце стаханаўцаў зборачнага цэха Шчуцкая прэміравана за перавыкананне промфінплана трэцяга квартала 150 рублямі. У мінулым годзе яна была прэміравана абсталяваннем пакоя, — і зусім нядаўна за ініцыятыву ў разгортванні стаханаўскага руху па фабрыцы прэміравана патэфонам.

**І. МІШКІН.**

# ПАСТАНОВА БЮРО ЦК КП(б)Б

## АБ АСВЯТЛЕННІ ГАЗЕТАМІ «ШЛЯХ СОЦЫЯЛІЗМА», «ЧЫРВОНАЯ ТУРАЎШЧЫНА» І «КАЛГАСНЫ СЦЯГ» ПЫТАННЯЎ ВЫДАЧЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ АКТАЎ НА ВЕЧНАЕ КАРЫСТАННЕ ЗЯМЛЁЙ

1. Не гледзячы на тое, што ў Чашніцкім, Тураўскім і Камарынскім раёнах зусім нездавальняюча ажыццяўляецца дырэктыва партыі і ўрада аб уручэнні калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй, газеты «Шлях соцыялізма», «Чырвоная Тураўшчына» і «Калгасны сцяг», замест мабілізацыі ўвагі вакол гэтага важнейшага палітычнага мерапрыемства, ігнаруюць асвятленне гэтых пытанняў на старонках газеты, прыкрываючы гэтым нездавальняючую работу партыйных і савецкіх арганізацый гэтых раёнаў па ўручэнню актаў.

2. Газеты «Шлях соцыялізма» і «Чырвоная Тураўшчына» толькі ў адным нумары далі месца пытанню ўручэння калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй, а газета «Калгасны сцяг» на працягу двух апошніх месяцаў аб гэтым не сказала ні слова. Гэта сведчыць аб тым, што рэдактары гэтых газет тт. Прахарэнка Бікашоў, Аўдзюшын не зрабілі неабходных вывадаў з рашэння ЦК КП(б)Б, абавязваючага шырока асвятляць ход работы па ўручэнню актаў на вечнае карыстанне зямлёй калгасам.

Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Указаць рэдактарам гэтых газет, тт. Прахарэнка, Бікашову і Аўдзюшыну, на зусім нецярпімыя з іх боку адносіны да асвятлення ў газетах пытання ўручэння калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

2. Абавязаць рэдактароў гэтых газет забяспечыць на высокім палітычным узроўні разгорнутае асвятленне гэтых пытанняў у газетах.



Калгаснікі сельскагаспадарчай арцелі «Новы шлях», Астрашыцка-Гарадзецкага сельсовета, Менскага раёна, прапрацоўваюць прамову таварыша Сталіна.

# Не зразумелі галоўнага

20 кастрычніка **халопеніцкая** раённая газета **«Чырвоны сцяг»** змясціла «Зварот усебеларускага злёта ўдарніц-трапальшчыц да ўсіх калгасніц і калгаснікаў ордэнаноснай Совецкай Беларусі».

Змясціўшы зварот, рэдактар газеты т. **Панкоў** лёгка ўздыхнуў. — Ну,— разважаў ён, — цяпер лён пойдзе. У звароце, моў, паказаны правілы апрацоўкі ільну, неабходнасць поўнага выкарыстання ільноапрацоўчых машын, аб арганізацыі спаборніцтва і ўдарніцтва і... справа забяспечана.

Аднак, лён «не ішоў». Амаль кожны нумар газеты заклікаў на барацьбу з сабатажнікамі ільнозагатовак. Судзячы па газеце, у большасці калгасаў раёна сабатуюць ільнозагатоўкі. Вось, напрыклад, аграном МТС **Серабракоў**, старшыня калгаса «Чырвоная зорка» Ляпко і адказны па ільну **Іўко:**

> **«сваёй бяздзейнасцю дапамагаюць класаваму ворагу сабатаваць ільноапрацоўку і здачу».**

Старшыня калгаса «Чырвоны пахар», Латыгальскага сельсовета, **Бутвідовіч** і яго намеснік па ільну **Бабавоз**

> **«сваім прамым папусціцельствам і бяздзейнасцю ўзначальваюць кулацкі сабатаж апрацоўкі і здачы ільнопрадукцыі».**

Або вось у калгасе «Будаўнік культуры»:

> **«налічваецца 70 працаздольных жанчын, а выходзіць на працу 30—35. Праўленне калгаса нават да гэтага часу нічога не зрабіла для забеспячэння стопроцантнага выхаду на работу калгасніц, не прыцягнула сабатажнікаў да адказнасці».**

Дзе ўсё-ж прычына адставання? На 25 лістапада гадавы план здачы ільну па раёну выканан толькі на 65 проц. Апошняя пяцідзёнка дала прырост усяго на 6½ проц.

Мы не згодны з т. Панковым, што прычына адставання крыецца толькі ў кулацкім сабатажы, які, бясспрэчна, ёсць у паасобных калгасах. У адставанні раёна перш-на-перш вінавата кіраўніцтва раёна і сама газета, якія замест канкрэтнай барацьбы за лён займаюцца агульнымі разважаннямі і пераконваннямі адзін другога ў неабходнасці ўзмацнення тэмпаў апрацоўкі ільну.

Цэнтральныя і большасць раённых газет паказалі і паказваюць метады работы лепшых стаханавак ільнаводства, якія натрапваюць больш 50 кілограмаў валакна ў дзень. Метады **Быкоўскай, Пярцовай, Кавалёвай** і многіх іншых сталі сцягам у барацьбе за датэрміновае выкананне плана. У Халопеніцкім раёне аб іх не ведаюць. Не ведаюць нават і аб сваіх стаханаўках.

Старавойтава Феціна з калгаса «Шлях соцыялізма», гэтага-ж раёна, дабілася выпрацоўкі 24 кілограмаў валакна ў дзень. Газета даведалася аб гэтай ударніцы-трапальшчыцы толькі пасля таго, калі класавы вораг Сабалеўская і рад іншых пачалі цкаваць тав. Старавойтаву, калі органы юстыцыі сабраліся судзіць вінаватых у цкаванні лепшай ударніцы.

«Чырвоны сцяг» не здолеў выявіць, паказаць і перадаць вопыт Старавойтавай Феціны, Старавойтавай Ганны, Каструковай, Тамілінай і многіх іншых лепшых трапальшчыц раёна.

Больш таго, калі ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Халопеніцкаму раёну раіў тав. Панкову выпусціць тэрмінова бюлетэнь па поваду прэміравання лепшых трапальшчыц і паказаць вопыт іх работы, тав. Панкоў доўга адмаўляўся,

дакаваў немагчымасць ва ўмовах рэдакцыі выпусціць бюлетэнь. Бюлетэнь быў выпушчан толькі пры дапамозе прыехаўшых таварышоў з Менска.

Ва многіх калгасах раёна існуюць яўна кулацкія нормы выпрацоўкі. У калгасе «Луч Леніна», напрыклад, за апрацоўку 17 фунтаў валакна налічваюць 5 працадзён. Большасць ільноапрацоўчых машын не выкарыстоўваецца. Грашовыя авансы трапальшчыцам, як правіла, не выдаюцца. Работа па мяльна-трапальных пунктах не арганізавана. А газета або праходзіць міма гэтага, або, у лепшым выпадку, толькі фіксуе гэтыя абураючыя факты.

У раёне:

**«больш разважаюць аб ільне, чым на справе арганізоўваюць сапраўдную бальшэвіцкую барацьбу за рэалізацыю пастановы ЦК і СНК БССР па ільну»**

— зусім правільна піша «Чырвоны сцяг». Але бяда ў тым, што гэтыя словы больш за ўсё можна аднесці да самой газеты.

Справа зараз заключаецца ў тым, каб кожны радок у газеце быў насычан вопытам работы Пярцовай, Быкоўскай, Старавойтавай і іншых стахановак ільнаводства, каб на вопыце перадавых выхаваць дзесяткі і сотні новых стахановак.

Бязлітасна выкрываючы сапраўдных сабатажнікаў апрацоўкі ільну, трэба разам з гэтым з нумара ў нумар паказваць і пераносіць вопыт арганізацыі працы па ільну перадавых калгасаў, мяльна-трапальных пунктаў, трапальшчыц, змагацца за высокую прадукцыйнасць мяльных і трапальных машын, ручной апрацоўкі.

Аператыўнасць, настойлівасць, дальнебачнасць, уменне пры дапамозе калгаснага актыва выявіць і ўзняць на шчыт славы лепшых трапальшчыц — вось дзе ключ для крутога ўзняцця тэмпаў апрацоўкі ільну.

Але для гэтага трэба перш-на-перш, каб сама газета, яе рэдактар змянілі свае адносіны да ільну — важнейшай культуры сельскай гаспадаркі ордэнаноснай БССР.

# У БАКУ АД ВАЖНЕЙШАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ СПРАВЫ

Уручэнне калгасам дзяржаўных актаў па вечнае карыстанне зямлёй — важнейшае палітычнае мерапрыемства. На выкананне гэтага мерапрыемства партыі і ўрада павінны быць мабілізаваны ўсе нашы партыйныя, савецкія і грамадскія арганізацыі на вёсцы, усе калгасы і калгаснікі.

Зусім зразумела, што роля раённых газет у гэтай справе надзвычай вялікая. Задача газет — дапамагчы раённым партарганізацыям і саветам у тэрмін і як найлепш правесці ў жыццё пастаўленую партыяй і ўрадам задачу па ўручэнню калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

А што мы маем на справе? Як раённыя газеты змагаюцца за ажыццяўленне гэтага важнейшага палітычнага мерапрыемства?

Перад намі камплект механаўскай раённай газеты **«Сталінскі заклік»**. За верасень, кастрычнік і палову лістапада газета ні радка не дала аб ходзе падрыхтоўкі да ўручэння калгасам актаў. Нават пасля пастановы Соўнаркома БССР і ЦК КП(б)Б «аб ходзе работ па выдачы дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй калгасамі», у якой адзначана, што «большасць раёнаў не выконвае намечанага ім плана, а некаторыя раёны да гэтага часу не выдалі ні аднаго акта (Круглянскі, Клічаўскі, Механаўскі)», газета «Сталінскі заклік» замоўчвае гэта пытанне. Механаўскую газету, як відаць, зусім не цікавіць пытанне, чаму да гэтага часу па раёну не ўручана ніводнага акта. Газета не ўскрыла і не паказала на сваіх старонках хто-ж усё-такі канкрэтна зрывае гэту работу.

Такое-ж самае становішча і ў клічаўскай газеце **«Сталінскі шлях»**. З гэтай газеты вы таксама не даведаецеся, што робіцца ў раёне па ўручэнню калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

Рэдакцыі механаўскай і клічаўскай раённых газет не разумеюць велізарнейшага палітычнага значэння гэтай спра-

вы, не зразумелі сэнсу рашэння бюро ЦК КП(б)Б па горацкай і аршанскай газетах, не зрабілі з гэтага рашэння ніякіх вывадаў для сваёй работы.

А вось камплект газеты «Большэвік Мсціслаўшчыны». Гэта газета некалькі раз выступала з матэрыяламі аб падрыхтоўцы да ўручэння дзяржаўных актаў калгасам. 20 верасня газета выступіла з артыкулам аб ходзе па раёну землеўпарадкаваўчых работ.

> **«Ад таго, як будуць своечасова выкананы землеўпарадкаваўчыя работы ў першую чаргу залежыць своечасовая выдача дзяржаўных актаў калгасам на вечнае карыстанне зямлёй»** —

піша «Большэвік Мсціслаўшчыны».

У гэтым-жа артыкуле прыводзіцца рад фактаў маруднай работы па падрыхтоўцы да выдачы актаў. Газета ўказвае, што

> **«асобныя сельсоветы раёна, як Янаўскі, Рылаўшчынскі, Дудчыцкі, Кармаваўскі, зусім адгарадзіліся ад гэтай важнейшай справы, не прымаюць ніякага ўдзелу, а ў асобных калгасах нават злосна ігнаруюцца мерапрыемствы па правядзенню землеўпарадкаваўчых работ».**

Але, пішучы аб маруднай падрыхтоўцы да выдачы калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй, «Большэвік Мсціслаўшчыны» зусім абыходзіць такое важнейшае пытанне, як якасць падрыхтоўкі. Газета не мабілізуе партыйныя і савецкія арганізацыі і масы калгаснікаў на барацьбу з усякімі скрыўленнямі лініі партыі ў гэтай важнейшай палітычнай справе.

У Мсціслаўскім раёне парушаецца інструкцыя Наркамзема СССР, зацверджаная Соўнаркомам Саюза ССР. У рэзультаце гэтага па раёну ёсць факты грубейшага скажэння лініі партыі — насаджэнне прышчэпаўскіх хутароў і пасёлкаў. Ясна, што раённая газета павінна была своечасова ўскрыць гэтыя факты, выкрыць вінаватых у гэтых скажэннях і рашучым чынам выступіць супроць іх. Аднак, «Большэвік Мсціслаўшчыны» абыходзіць моўчкі гэтыя абураючыя факты скажэння дырэктыў партыі і ўрада па правядзенню падрыхтоўчых работ да ўручэння калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

Такога становішча далей нельга цярпець. Рашучым чынам трэба палепшыць асвятленне ў газетах усіх работ, звязаных з падрыхтоўкай і правядзеннем уручэння калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй. Нельга абмяжоўвацца апісаннем толькі ўручэння першых у раёне актаў.

Задача ўсіх раённых газет — шырока і сістэматычна асвятляць на сваіх старонках уручэнне калгасам актаў. Рашучым чынам трэба змагацца з зацяжкай падрыхтоўчых работ да ўручэння актаў. З усёй большэвіцкай настойлівасцю змагацца з усякімі скажэннямі дырэктыў партыі і ўрада пры правядзенні гэтага важнейшага палітычнага мерапрыемства.



**Да XVIII гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыт пабудаваны ў Растове-на-Дану вялікі, прыгожа афармлены і добра абсталяваны тэатр. Зал для глядачоў новага тэатра змяшчае 2.300 чалавек, канцэртная зала разлічана на 860 чалавек. Апрача таго, у тэатры ёсць прасторныя вестыбюлі, прыгожыя файе, балконы, буфеты і рад іншых падсобных памяшканняў. Для артыстаў ёсць добрыя рабочыя габінеты, залы чакання, ванны, душ і т. д.**

**НА ЗДЫМКУ: галоўны пад'езд тэатра.**

Фото САБЕЛЬНІКАВА.

# ЗАБЫТЫ УЧАСТАК РАБОТЫ

У канцы верасня гэтага года Соўнарком Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) выдалі спецыяльную пастанову «Аб рабоце спажывецкай кааперацыі на вёсцы». У пастанове адзначаецца, што «перамога калгаснага ладу на вёсцы, рост заможнасці і культурных запросаў калгасных мас высоўваюць новыя патрабаванні перад совецкім гандлем. Вытворчасць прамысловых тавараў шырокага спажывання, якая безупынна павялічваецца, дазваляе ўсё паўней задавальняць узрастаючы попыт калгаснай вёскі і ўжо цяпер значна палепшыць снабжэнне сельскага насельніцтва прамысловымі таварамі. Ёсць усе спрыяючыя ўмовы для «разгорнутага таваразвароту паміж горадам і вёскай, паміж рознымі галінамі народнай гаспадаркі» **(Сталін).**

Аднак, сельскі гандаль, асабліва работа вясковай спажывецкай кааперацыі, далёка адстае ад агульнага вытворчага і культурнага росту калгаснай вёскі. Тлумачыцца гэта тым, што «цяперашні апарат спажывецкай кааперацыі, які з'яўляецца асноўным правадніком тавараў у вёску, не адпавядае новым задачам і патрабаванням разгорнутага таваразвароту. Таваразварот паміж горадам і вёскай не разгортваецца ў належнай меры» (з пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б).

Соўнарком і Цэнтральны Камітэт партыі намецілі практычныя мерапрыемствы па перабудове ўсёй работы спажывецкай кааперацыі на вёсцы, па разгортванню таваразвароту паміж горадам і вёскай.

Зусім зразумела, што друк павінен адыграць велізарнейшую ролю ў праводзенні ў жыццё гэтага важнейшага рашэння партыі і ўрада.

Калі-ж мы праглядаем нашы раённыя газеты, то ствараецца ўражанне, што работнікі многіх рэдакцый раённых газет не разумеюць таго велізарнейшага значэння, якое мае таваразварот у нашым соцыялістычным будаўніцтве.

Перад намі камплект крычаўскай газеты **«Соцыялістычны шлях».** За верасень і кастрычнік газета змясціла толькі адну невялічкую заметку пра кааперацыю: «Ігнаруюць культурны гандаль» (нумар за 24 кастрычніка). У гэтай заметцы газета не ўскрыла прычын дрэннай работы крам міхеевіцкага сельпо, а звяла гэта толькі да таго, што

> «ў крамах няма ніводнага плаката, лозунга, партрэта правадыра».

Пасля гэтых радкоў газета заключае, што

> «як відна, старшыня сельпо Ягоранка і яго работнікі не прапрацавалі пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб рабоце спажывецкай кааперацыі на вёсцы і не змагаюцца за яе ажыццяўленне».

Мабыць газета і права ў тым, што работнікі міхеевіцкага сельпо не прапрацавалі гэту пастанову партыі і ўрада. Але, напэўна, і работнікі рэдакцыі газеты «Соцыялістычны шлях» таксама не ведаюць добра сутнасць гэтай пастановы. Бо як-жа магло здарыцца, што газета ў даным выпадку звяла задачы перабудовы работы спажывецкай кааперацыі на вёсцы толькі да вывешвання плакатаў і лозунгаў у крамах сельпо.

У нумары за 8 кастрычніка газета «Соцыялістычны шлях» змясціла перадавы артыкул аб дзяржаўных закупках хлеба. І вось у гэтым артыкуле ні слова няма аб задачах вясковай спажывецкай кааперацыі, аб задачах сельпо ў сувязі з рашэннем Соўнаркома СССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) «Аб рабоце спажывецкай кааперацыі на вёсцы». Газета абмежавалася агульнымі разважаннямі аб хлебазакупках, шмат адвяла месца асобным калгасам і сельскім советам і нічога канкрэтнага не сказала, што-ж павінны рабіць сельпо ў гэтай важнай справе.

З рук вон дрэнна абстаіць справа з асвятленнем работы спажывецкай кааперацыі і на старонках газеты **«Калектывіст Расоншчыны», «Калгасная праўда»** (Лепель), **«Чырвоная Полаччына»** і раду іншых. У гэтых газетах — таксама можаце знайсці толькі змешчаную пастанову аб кааперацыі і па аднаму-два кароткіх сігналы з месц аб

дрэннай рабоце той ці іншай кааперацыйнай крамы. А бягомльская раённая газета **«Калгасны змагар»** і прапойская **«Калгасны шлях»** за верасень і кастрычнік ні радка не далі аб рабоце спажывецкай кааперацыі на вёсцы, не змясцілі нават і пастанову Соўнаркома і ЦК па гэтаму пытанню.

Толькі палітычнай блізарукасцю рэдактароў гэтых газет, неразуменнем задач партыі ў галіне разгортвання тавараабароту можна тлумачыць такое становішча.

Ясна, што такое становішча надалей ні мінуты не цярпіма. Нельга ігнараваць пытанні кааперацыйнага будаўніцтва. Пытанням перабудовы ўсёй работы спажывецкай кааперацыі, разгортванню тавараабароту паміж горадам і вёскай павінна быць адведзена на старонках газет пачэснае месца.

У гэтай справе многія раённыя газеты могуць павучыцца ў аршанскай газеты **«Ленінскі прызыў»**, якая ў апошні час не дрэнна разгарнула барацьбу за палепшанне работы спажывецкай кааперацыі. Апрача кароткіх заметак за месц, аршанская газета змяшчае на сваіх старонках папулярныя артыкулы кіруючых работнікаў раёна, дае паказ работы асобных сельпо. Увесь матэрыял аб кааперацыі газета цесна ўвязвае з пастановай СНК і ЦК і з правадзімым усебеларускім конкурсам на лепшае сельпо, спажыўсаюз, магазін і краму.

Газета «Ленінскі прызыў» правільна ставіць пытанне аб палепшанні работы спажывецкай кааперацыі на вёсцы. Вось, напрыклад, у артыкуле «Выканаць усе ўмовы конкурсу» ў нумары за 4 лістапада газета піша:

> «Каб вывесці кожнае сельпо ў перадавыя, трэба звярнуць асаблівую ўвагу на падбор кадраў, умацніць сувязь сельпо з пайшчыкамі, правесці перавыбары рэўкамісій і кіраўніцтва сельпо пры шырокім удзеле спажыўцоў, пры жорсткай крытыцы і самакрытыцы».

Іменна людзі, кадры могуць забяспечыць поспех справы. Бо, як адзначаюць у сваёй пастанове СНК і ЦК, «цяперашні апарат спажывецкай кааперацыі, які з'яўляецца асноўным праваднікам тавараў у вёску, не адпавядае новым задачам і патрабаванням разгорнутага тавараабароту».

Задача ўсіх раённых газет — шырока разгарнуць на сваіх старонках барацьбу за палепшанне работы спажывецкай кааперацыі на вёсцы. Падбор кадраў, — культурнае абслугоўванне спажыўца, перабудова па-новаму ўсёй сістэмы работы кааперацыйнага апарата, ачыстка апарата кааперацыі ад класава-чужых элементаў, ад жулікаў і растратчыкаў, барацьба за гібкасць у рабоце кожнага сельпо, кожнага яго работніка, — вось тыя пытанні, якія газеты не павінны абыходзіць у барацьбе за палепшанне работы спажывецкай кааперацыі, за разгортванне тавараабароту паміж горадам і вёскай

У нас нямала ёсць прыкладаў узорнай работы сельпо, крам і асобных кааперацыйных работнікаў. Задача газет — шырока паказваць вопыт гэтай узорнай работы. На прыкладах перадавых — вучыць астатнія сельпо, магазіны, крамы, як трэба змагацца за выкананне дырэктыў партыі і ўрада.

---



**У агразоагабінет НКЗ БССР дастаўлены ўзоры вінаграду, вырашчанага ў Рагачове настаўнікам т. Руткоўскім. Гэты вінаград не ўступае якасці вінаграду Каўказа і Крыма. На здымку—загадчык агразоагабінета т. Васілеўскі разглядае вінаград.**

# Аб вялікай сіле ў калгасе

Радаснае і шчаслівае жыццё прынёс калгасны лад жанчыне-сялянцы. Толькі ў калгасе жанчына на справе стала роўнапраўным чалавекам. Яна працуе на сябе і ўпэўнена ў заўтрашнім дні. Яна выпрацоўвае працадні нароўні з мужчынай.

«Працаднямі калгас вызваліў жанчыну і зрабіў яе самастойнай. Яна цяпер працуе ўжо не на бацьку, пакуль яна ў дзяўчатах, не на мужа, калі яна замужам, а перш за ўсё на сябе працуе. Вось гэта і значыць вызваленне жанчыны-сялянкі, гэта і значыць калгасны лад, які робіць жанчыну працоўную роўнай усякаму мужчыне-працоўнаму. Толькі на гэтай базе, у гэтых умовах маглі паявіцца такія выдатныя жанчыны»,—сказаў тав. Сталін у сваёй прамове на сустрэчы ў Крэмлі кіраўнікоў партыі і ўрада з калгасніцамі-пяцісотніцамі.

Штодзенна адчуваюць на сабе калгасніцы сталінскія клопаты аб людзях. На прыёме пяцісотніц, на нарадзе стаханаўцаў з усёй рашучасцю героі працы падкрэслілі, што сталінскія клопаты аб людзях стварылі асаблівую якасць у працы, якая ўзняла людзей на вышыню сапраўдных герояў. Сярод іх вялікае месца займаюць такія жанчыны, як Марыя Дземчэнка, Марына Гнаценка, сёстры Вінаградавы, Сцепаніда Быкоўская, Праскоўя Пярцова, Рагоўская, Кавалёва і іншыя.

У сталінскім статуце калгаснага заможнага жыцця не малое месца аддаецца жанчынам-калгасніцам. Па ініцыятыве тав. Сталіна ў статут унесен пункт аб вызваленні жанчын за месяц да і пасля радоў ад работы з захаваннем у палавінным размеры аплаты выпрацаваных імі ў сярэднім працадзён. З якой радасцю сустрэлі гэту прапанову правадыра калгасніцы і калгаснікі нашага Савецкага Саюза!

Але класавы вораг і яго агентура імкнецца сарваць ажыццяўленне важнейшых пунктаў статута. Ігнараванне чатырнаццатага пункта сталінскага статута мае месца ў радзе калгасаў.

Па Плешчаніцкаму раёну калгасніцы Рачыцкая Наста, Байлевіч Лёкса і Казлоўская Алена з калгаса «Чырвоны Кастрычнік», Каменскага сельсовета, павінны былі атрымаць адпачынак па цяжарнасці. Яны прынеслі даведку ад доктара. Усё-ж нявыхад на работу залічылі ім за прагул. У калгасе імя Ланцуцкага, Завішанскага сельсовета, цяжарныя калгасніцы не карыстаюцца адпачынкам. Па словах калгасніцы Ляхневіч яны нават не ведаюць, што адпачынак ім належыць атрымаць.

Газета **«Барацьбіт за калектывізацыю»** (орган Плешчаніцкага райкома КП(б)Б і РВК) павінна была ўзняць на сваіх старонках барацьбу супроць парушэння статута. Але яна гэтага не зрабіла. За чатыры месяцы «Барацьбіт за калектывізацыю» змясціў адзін невялікі артыкул: «У калгасе імя Соўнаркома БССР парушаюць статут сельскагаспадарчай арцелі». У артыкуле сказана толькі, што жанчыны ў калгасе не атрымліваюць адпачынку на цяжарнасці і ўсё. Больш газета нічога не сказала аб гэтых фактах.

Факты грубага парушэння 14-га пункта статута сельскагаспадарчай арцелі ў раёне не адзіныя. Але газета аб іх маўчыць. Цяжка сказаць, ці газета не ведае, што робіцца ў раёне, ці не знаходзіць патрэбным займацца пытаннем выканання важнейшага пункта калгаснага статута.

Недалёка ад газеты «Барацьбіт за калектывізацыю» адышла і **«Ленінская перамога»** (орган Парыцкага РК КП(б)Б і РВК—рэдактар З. Ляшкевіч). Рад фактаў грубага парушэння статута ў адносінах да цяжарных калгасніц меў месца ў раёне, але газета чамусьці маўчала. Павінен быў здарыцца няшчасны выпадак (у калгасе «Новае жыццё», Сцепскага сельсовета, цяжарная калгасніца Пашкевіч Наста, якая працавала да апошняга дня, памерла ад пасляродавага кровацячэння), каб газета крыху заварушылася. Але і тут газета засталася поўглухой. Яна абмежавалася надрукаваннем двух пастаноў РК і РВК і аднаго артыкула з каментарыямі да пастановы.

---

У сталінскім статуце асобна запісана аб стварэнні дзіцячых устаноў у кал-

гасах. Наша краіна пакрылася ўжо густой сеткай яслей, дзіцячых садоў. Рэдка можна знайсці такі калгас, у якім не было-б дзіцячых устаноў.

Але не ўсюды праўленні калгасаў і раённыя арганізацыі займаюцца дзіцячымі ўстановамі. Ва многіх калгасах работа яслей пастаўлена яшчэ вельмі дрэнна. У прыватнасці гэта датычыць Ельскага раёна. Адпушчаныя сродкі на яслі не выкарыстоўваюцца. У калгасе «Шлях соцыялізма», Васенцоўскага сельсовета, на яслі адпушчана было дзяржавай 10.850 рублёў. К 15 жніўня было выдаткавана толькі каля 3.000 рублёў.

На жаль, гэтага не заўважыла газета «Большэвіцкі змагар» (орган ельскага РК КП(б)Б і РВК). У газеце за час з 1 ліпеня надрукавана 7 маленькіх заметак аб дрэннай рабоце калгасных яслей. Газета не зрабіла з атрыманых сігналаў адпаведных вывадаў, а абмежавалася толькі дрэннай фіксацыяй фактаў.

**
*

Журнал «Крестьянка» — орган ЦК ВКП(б) разам з Наркамземам РСФСР праводзіць рэйд-праверку выканання сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі ў галіне аховы мацеры і дзіцяці і выхавання дзяцей. Газеты, аб якіх мы пішам, яшчэ не ўключыліся ў гэты рэйд і стаяць у баку ад праверкі выканання аднаго з важнейшых пунктаў статута сельскагаспадарчай арцелі.

Партыя пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна вядзе нас ад перамогі да перамогі. З кожным днём паляпшаецца жыццё працоўных нашай краіны. «Жыць стала лепш, таварышы. Жыць стала весялей» **(Сталін).** Расце культурнае, заможнае жыццё ў калгасах, растуць героі і гераіні працы, растуць у Совецкай Беларусі і свае Дземчэнкі. І ахова здароўя жанчыны—вялікай сілы ў калгасе, клопаты аб калгасніцы, барацьба за выкананне 14 пункта статута — гэта вельмі важная справа.

Раённы і нізавы друк абавязан па сваіх старонак шырока асвятляць, як на справе ажыццяўляецца сталінскі статут заможнага жыцця па ўсіх яго пунктах.

Трэба паказаць, як выкарыстоўваюць свой адпачынак цяжарныя калгасніцы, як рыхтуюцца яны сустрэць новых совецкіх грамадзян. Трэба шырока асвятляць работу калгасных хат-радзілень, паказаць вопыт работы дзіцячых устаноў.

Трэба разнастайна і жыва паказаць сучаснасць нашых жанчын-калгасніц, якія выдзелілі са сваіх радоў такіх гераінь, як Марыя Дземчэнка, Марына Гнаценка, Сцепаніда Быкоўская, Аўдоцця Кавалёва і дзесяткі і сотні ім падобных. І адначасова з гэтым газеты абавязаны з усёй большэвіцкай рашучасцю выкрываць усялякія парушэнні сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі.



**11 лістапада ў Маскве на пасяджэнні прэзідыума ЦВК СССР адбылося ўручэнне ордэнаў узнагароджаным калгасніцам-пяцісотніцам. НА ЗДЫМКУ: тт. Калінін, Уншліхт, Чэрноў, Хрушчоў, Кіселёў, Вейнберг і інш. у групе ўзнагароджаных калгасніц-пяцісотніц.**

## З БЛАКНОТА ІНСТРУКТАРА

★★★

# БЕЗ ПЛАНА, БЕЗ ПЕРСПЕКТЫЎ

Рэдактар бярэзінскай раённай газеты **«Сцяг Леніна»** тав. **Булай** быў засцігнуты 12 кастрычніка знянацку запытаннем свайго карэспандэнта:

— Скажыце, калі выходзіць чарговы нумар газеты «Сцяг Леніна»? Ці патрэбен вам матэрыял аб падрыхтоўцы жывёлы да зімоўкі?—пытаўся па тэлефону карэспандэнт газеты настаўнік Сялібскай школы тав. **Рунец.**

Рэдактар крыху замяшаўся. Не ведаў спачатку, што адказаць на такое нечаканае пытанне. Потым, падумаўшы крыху, адказаў няўпэўнена:

— Чарговы нумар выйдзе, мабыць, чысла пятнаццатага-шаснаццатага... Прыблізна так. А адносна артыкула аб жывёлагадоўлі, дык... Бачыце, такая справа...

Зноў пачаў думаць рэдактар. Але на дапамогу прыйшоў загадчык сельгасаддзела газеты.

— Кажы, хай прысылае, бо ў нас нічога няма аб жывёлагадоўлі, а гэту кампанію нам трэба разгортваць.

Рэдактар схамянуўся.

— Прысылай, брат... Абавязкова прысылай. Мы думаем зараз шырока разгарнуць асвятленне жывёлагадоўлі.

Гэта не выпадак. Амаль у любы дзень вы можаце паставіць тав. Булая ў непрыемнае становішча, задаўшы яму пытанне аб тэрміне выхаду чарговага нумара яго газеты і аб матэрыяле, які пойдзе ў гэтым нумары.

Ні рэдактар, ні сакратар, ні любы супрацоўнік бярэзінскай газеты, выпусціўшы, скажам, газету за сёння, не можа дакладна сказаць, калі ў іх выйдзе чарговы нумар і што ў ім будзе змешчана.

У чым справа?

Па-першае, метады работы рэдакцыі натуральна гробяць газету. Самацёк, адсутнасць усякай арганізацыі працы —галоўнае зло ў рабоце рэдакцыі. Няма нават канкрэтна вызначаных **дзён, у якія павінна выходзіць газета.** Дый як іх можна вызначыць, калі тут справа пастаўлена так, што рэдакцыя складае толькі план чарговага нумара. Работнікі рэдакцыі разыходзяцца па сельсоветах для збірання ў гэты нумар матэрыялу. І вось часам таварышам не ўдаецца за адзін дзень сабраць патрэбны матэрыял, прыходзіцца патрацiць на гэта крыху больш часу. Тады і газета выходзіць або са спазненнем, або з матэрыялам, які пападае пад руку. Ні месячнага, ні квартальнага плана работы ў рэдакцыі няма. Не пасылае газета і заданняў сваім карэспандэнтам. Адным словам, газета выдаецца, калі так можна сказаць, своеасаблівым саматужным спосабам.

Гэта прыводзіць да таго, што «Сцяг Леніна» ўпускае рад важнейшых гаспадарчых і палітычных пытанняў. У рэзультаце гэтага газета не з'яўляецца баявым, апаратыўным органам райкома партыі, а цягнецца ў хвасце падзей.

Вазьміце сёмы кангрэс Комінтэрна. З якою ўвагаю ўвесь свет сачыў за работай кангрэса. Працоўныя ўсяго свету з велізарнейшай цікавасцю сачылі за кожным дакладам, за кожным выступленнем на кангрэсе Комінтэрна. Рашэнні VII кангрэса Камуністычнага Інтэрнацыянала з'яўляюцца баявой праграмай усіх кампартый, усіх працоўных свету ў барацьбе супроць фашызма і новай імперыялістычнай вайны, за абарону СССР, за сацыялістычную рэвалюцыю ва ўсім свеце. А газета «Сцяг Леніна» ні слова не дала на сваіх старонках ні аб адкрыцці, ні аб работах кангрэса і толькі змясціла 25 жніўня заметку Белта аб тым, што 20 жніўня кангрэс Комінтэрна скончыў сваю работу.

Партыйнага аддзела ў газеце «Сцяг Леніна» фактычна няма. Прагледзіце ўвесь камплект газеты і вы не знойдзеце ні паказу работы нізавых партыйных арганізацый, ні паказу жывога ча-

лавека — комуніста. Нават такую важнейшую палітычную работу, як праверка партыйных дакументаў па раённай партарганізацыі, газета зусім слаба паказала на сваіх старонках. Хіба-ж можна задаволіцца тым, што газета змясціла пастановы ЦК і тры-чатыры заметкі аб ходзе праверкі партдакументаў. Прычым заметкі напісаны на аснове вынесеных ужо райкомам партыі рашэнняў аб выключэнні з партыі раду асоб, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю.

Бессістэмнасць у падачы матэрыялу, нізкая якасць яго апрацоўкі, шаблоннасць загалоўкаў, — усё гэта робіць газету нецікавай для чытача. І таму не дзіва, што тыраж газеты такі нізкі — усяго 1.800 экземпляраў.

У гэтым годзе нам прыходзіцца другі раз пісаць аб газеце «Сцяг Леніна», аб працы яе рэдакцыі. Першы раз мы пісалі ў журнале «Большэвіцкі друк» за красавік месяц. З таго часу прайшло звыш пяці месяцаў. Аднак, і сёння мала чым змянілася становішча ў рэдакцыі.

Вазьміце хоць-бы такое пытанне, як работа з селькорамі. Работа гэта тут заключаецца пакуль што толькі ў тым, што рэдакцыя пасылае часам селькорам адказы на нязмешчаныя і пасланыя на расследванне допісы. Вось і ўсё. Гэта і лічаць таварышы з бярэзінскай газеты работай з селькорамі. Вось чаму і прыток селькораўскага матэрыялу ў газету зусім нязначны. За дзень паступаюць 3—4 заметкі. Бываюць і такія дні ў рэдакцыі «Сцяга Леніна», калі ў газету не паступае ніводнай заметкі.

Рэдакцыя і зараз не занялася як след вывучэннем соцыяльнага твару селькораў. Рэдакцыя атрымала ад некаторых сваіх селькораў запоўненыя анкеты, паклала іх у папкі і на гэтым лічыць сваю задачу вычарпанай. Сістэматычнага знаёмства з селькорамі няма. Нават запоўненыя селькораўскія анкеты нікім не прагледжаны.

Такую работу рэдакцыі нельга цярпець.

Планавасць у рабоце, шырока разгорнутая работа з селькорамі, настойная праца работнікаў рэдакцыі над сабой — вось што патрэбна для таго, каб газета не з'яўлялася пасіўным рэгістратарам, не цягнулася ў хвасце падзей, а была-б баявым, палітычна завостраным органам партыйнай арганізацыі. Нельга працаваць такімі метадамі, якімі вы зараз працуеце, таварышы з бярэзінскай рэдакцыі.

**С. СЯМАШКА.**

# Змяніўся выгляд рэдакцыі

Было гэта ў маі. У рэдакцыі **ельскай** раённай газеты **«Большэвіцкі змагар»** сядзеў адзін чалавек. Ён закапаўся ў паперы і нешта пісаў. Чалавек гэты з'яўляўся намеснікам рэдактара, хоць лепш было-б яго назваць часовым рэдактарам, бо адказнага рэдактара тады наогул не было.

Раптам дзверы адчыніліся і ў пакой увайшоў наведвальнік. На ўвайшоўшым была доўгая вайсковая шынель, вайсковая шапка са звяздой, пятліцы і знакі адрознення.

Увайшоўшы кінуў узрокі наўкола. Ён убачыў запушчаныя да апошняй ступені пакой, абшарпаныя сцены, даўно нямытую падлогу, аконныя рамы без шкла...

Таварыш Аблажны ўстаў, каб прапанаваць увайшоўшаму сваё крэсла, бо больш крэслаў у рэдакцыі не было.

— Добры дзень, — сказаў увайшоўшы: — дазвольце даведацца з кім я размаўляю.

— Я — намеснік рэдактара, — адказаў тав. **Аблажны.**

— Ну, а я — новапрызначаны рэдактар вашай газеты **Віталій Сідарук**. Будзем знаёмы. Вось пуцёўка.

Так некалькі месяцаў назад адбылося першае знаёмства цяперашняга рэдактара газеты «Большэвіцкі змагар» тав. Сідарука з памяшканнем рэдакцыі і яе адзіным у той час работнікам.

***

Новаму рэдактару «Большэвіцкага змагара» прышлося перш за ўсё ўзяцца за абсталяванне рэдакцыі. Работы, клопатаў затрачана нямала. Але сёння ўжо можна смела сцвярджаць, што

работнікі нямногіх рэдакцый раённых газет Беларусі маюць такія добрыя ўмовы для работы, як умовы работнікаў ельскай газеты.

Зроблен капітальны рамонт страхі. Цяпер ужо не цячэ вада на галовы набаршчыкаў. Новая страха афарбавана і будзе служыць не адзін год. Адрамантавана падлога ў рэдакцыі і друкарні. Устаўлены шыбы ў вокнах, зроблены падвойныя рамы, папраўлены печы. У памяшканні рэдакцыі і друкарні светла і цёпла.

У габінеце рэдактара стаіць доўгі стол — за ім праводзяцца рэдакцыйныя нарады, нарады селькораў; у куту шафа з рэдакцыйнай бібліятэкай, на сцяне вялізная карта СССР, побач этажэрка з газетамі і матэрыяламі, патрэбнымі ў першую чаргу.

У агульным пакоі кожны работнік рэдакцыі (цяпер у рэдакцыі пяць супрацоўнікаў) мае добры, зручны стол, няма недахвату ў крэслах ні для супрацоўнікаў, ні для наведвальнікаў. На сталах — добрыя чарнільныя прыборы, попельніцы.

Чаму мы пішам тут нават аб такіх рэчах, як чарнільны прыбор і попельніца? Няма слоў, гэта — дробязі, але папрабуйце напісаць артыкул, не маючы ручкі, чарніла. Хіба няма ў нас такіх рэдакцый, дзе супрацоўнікі кожную раніцу трацяць па гадзіне часу на расшукванне ручкі, чарнільніцы? Гутарка ідзе аб тым, каб рэдактар паклапаціўся аб кожнай дробязі, якая можа зрабіць працу супрацоўніка як можна больш прадукцыйнай, каб рэдакцыя мела выгляд у поўнай меры культурнай установы. Па нашых наглядданнях, у работнікаў многіх яшчэ раённых газет адсутнічае жаданне зрабіць памяшканне рэдакцыі ўзорнай у культурных адносінах установай раёна. Гэта жаданне ёсць у рэдактара «Бальшавіцкага змагара», і яно ператворана ўжо ў справу. Можна смела сказаць, што рэдакцыя ельскай газеты, калі не самая культурная, то адна з культурнейшых устаноў у раёне.

Яшчэ некалькі фактаў. Раней вакол рэдакцыйнага будынка і на двары ляжалі кучы смецця, удоўж сцен расла крапіва, чартапалох. З лета гэтага года знадворны выгляд рэдакцыі рэзка змяніўся. Памяшканне абнеслі агарожай, убралі смецце, пасадзілі кветкі, і да першых замаразкаў вакол памяшкання рэдакцыі цвілі вяргіні.

У мястэчку няма ракі. А летам так хочацца пасля работы выкупацца. І рэдактар прыдумаў нямудрую штуку. Ва двары рэдакцыі на падстаўках усталявілі вялікую бочку, у дне яе зрабілі выхад для вады. Усю гэту прыладу абнеслі шчыльным тынам і вышаў нядрэнны душ.

Цяпер у рэдакцыі абмяркоўваюць, як арганізаваць здаровы адпачынак зімою. Ужо набыты лыжы і хлопцы мараць пра доўгія лыжныя вылазкі.

Не так даўно кватэрныя ўмовы работнікаў рэдакцыі былі з рук вон дрэнныя. Намеснік рэдактара т. Абложны з жонкай і двума малымі дзецьмі змяшчаўся ў адным пакоі. Тав. Сідарук дабіўся таго, што рэдакцыі далі невялікі домік. Домік адрамантавалі. Атрымаліся вельмі добрыя кватэры. У гэтым доме ўжо жыве рэдактар і яго намеснік. У гэтым-жа доме заканчваецца абсталяванне інтэрната для халасцякоў — работнікаў рэдакцыі. Рэдакцыя дапаможа ім сродкамі ў набыцці ложкаў і пасцелі.

*
* *

Нам могуць пярэчыць: а сродкі? Дзе рэдакцыя бярэ сродкі для ўсяго гэтага? Адказваем. Справа не **толькі** ў сродках, нават не **столькі** ў сродках, як у **ініцыятыўнасці, знаходлівасці** рэдактара. Ельская рэдакцыя зусім не багата сродкамі. Але рэдактар не чакае, пакуль страха абваліцца, своечасова клапоціцца аб тым, што трэба зрабіць. Дапамагаюць раённыя ўстановы, частка грошай выкройваецца з бюджэта рэдакцыі, а для некаторых апісаных вышэй рэчаў зусім непатрэбны сродкі. Трэба толькі жаданне зрабіць умовы работнікаў газеты як можна лепшымі.

**Ю. БЕЛЬКО.**

# У ТАКІХ УМОВАХ ПРАЦУЕ РЭДАКЦЫЯ

Не так лёгка знайсці рэдакцыю раёнай газеты **«Шлях калектывізацыі»** чалавеку, які ўпершыню прыехаў у раённы цэнтр Смалявічы. Цэлы дзень будзе хадзіць ён па вуліцах ў пошуках яе. Па дарозе сустрэнуцца яму шыльды з надпісамі: сталовая, аптэка, гасцініца, РК КП(б)Б, Раённы выканаўчы камітэт, але шыльды рэдакцыі газеты «Шлях калектывізацыі» не будзе.

Вам трэба абавязкова папасці ў рэдакцыю. Вы два-тры разы абыйдзеце ўсе вуліцы, прачытаеце ўсе шыльды і, нарэшце, звернецеся да першага сустрэчнага жыхара мястэчка:

— Ці не ведаеце, таварыш, дзе рэдакцыя?

— Ідзіце на тую вуліцу, там крыху лявей за аптэкай будзе рэдакцыя — пачуеш адказ.

Вы трапіце, нарэшце, на паказаную вуліцу, некалькі раз пройдзеце каля аптэкі, але ніяк не зможаце здагадацца, што поўразбуранае памяшканне з дзіравым дахам, зачыненымі акяніцамі і разламанымі дзвярыма — гэта і ёсць памяшканне рэдакцыі газеты «Шлях калектывізацыі».

На старонках смалявіцкай газеты можна прачытаць не адну заметку аб культуры ў сельсоветах і габінетах іх старшынь. А сама рэдакцыя не можа паслужыць прыкладам нават для самага адсталага сельсовета раёна.

Сакратар рэдакцыі пажадаў зайсці ў рэдакцыю. Праз акно ён узяў у прыбіральшчыцы ключ.

— Вы ім усё роўна дзвярэй не адчыніце, — папярэджвае прыбіральшчыца.

— А як-жа вы зайшлі сюды?

— Праз акно, — мы часта так робім.

Ці варта пасля гэтага гаварыць аб плюшавай мэблі рэдакцыі, якая ніяк не гарманіруе з абарванымі абоямі і паламанай падлогай.

Яшчэ горшае становішча ў друкарні, памяшканне якой цалкам развалена. Раённы пракурор забараніў там нават працаваць. Больш 10 дзён газета не выходзіла, а пасля знайшлі пару маленькіх пакойчыкаў у розных дамах, дзе змясцілі наборшчыкаў, вярстальшчыка і карэктара. У адным доме газета набіраецца, у другім карэктуецца, а ў трэцім круціцца кола друкарскай машыны. Рабочыя-друкары ў гэты час заўсёды напагатове ўцякаць ад пагражаючага абвалу столі. Можна сабе ўявіць, якая можа быць увага рабочых-друкароў да выпуску газеты.

Не ў лепшых умовах знаходзяцца і работнікі рэдакцыі. Мы зайшлі ў кватэру намесніка рэдактара тав. **Жука.** Ён нас папрасіў прысесці. Але сесці не прышлося. Куды не паставіш крэсла, яно ўсё роўна правальваецца двума-трыма ножкамі ў дзіркі падлогі. Раённыя арганізацыі добра ведаюць, што ў кватэры, дзе жыве тав. Жук з малымі дзецьмі, жыць нельга. Работнікі рэдакцыі Жук і Дубіцкі не забяспечваюцца таксама апалам таму, што яны «не так даўно працуюць у раёне». Іх «чарга» на атрыманне апалу — не раней 1936 года.

Не лепш і ў кватэры рэдактара тав. **Старасценкі.** Дах працякае з усіх бакоў, а рамантаваць кватэру камгас і не думае.

Аб усім гэтым добра ведаюць смалявіцкі РК КП(б)Б і РВК, органам якіх газета з'яўляецца. Ведаюць, але не хочуць зразумець, што ў такіх умовах рэдакцыя працаваць не можа, што для таго, каб мець баявую аператыўную газету, трэба стварыць умовы для яе работы.

А зразумець гэта і прыняць рашучыя меры для абсталявання рэдакцыі і друкарні, праявіць неабходныя клопаты аб жывых людзях — кадрах газеты—неабходна як можна хутчэй.

**Р. СІМХОВІЧ.**

# ЧАМУ РЭДАКЦЫЯ НЕ МАЕ ШЫЛЬДЫ

Уявіце сабе, што вы ўпершыню трапілі ў мястэчка Лагойск і хочаце зайсці ў рэдакцыю раённай газеты. Вы, натуральна, адразу накіроўваеце погляд на шыльды розных раённых устаноў, шукаючы паміж імі шыльду рэдакцыі. І будзеце вы так цэлы дзень хадзіць па Лагойску і рэдакцыі не знойдзеце: памяшканне рэдакцыі не мае шыльды...

Праблукаўшы вось так з гадзіну і пераканаўшыся ў бескарыснасці сваіх шуканняў, я звярнуўся да аднаго-другога праходжага і такім чынам даведаўся, дзе памяшканне рэдакцыі.

Перад маімі вачыма прадстала жудасная карціна. Памяшканне лагойскай рэдакцыі запушчана. Абоі паадклейваліся ад сцен і звісаюць уніз. У некаторых мясцах яны адклеіліся, але не адарваліся і падобны на нейкую апухласць сцяны. Дакрануцца да сцяны вельмі рызыкоўна: на вас пасыпецца пыл, які салідным пластом пакрывае ўсе сцены. Скрынка тэлефоннага акумулятара разбіта. Ля сцяны дагары калёсамі ляжыць нейкая пабітая прылада, якая здалёк нагадвае веласіпед. Вешалкі няма, яе замяняе адзіны цвік у сцяне, на якім нейкім цудам трымаецца вопратка ўсіх работнікаў рэдакцыі.

Вашы вочы стомлены ўсім убачаным тут і вы хутчэй кідаецеся да вакна —к святлу, к сонцу! Дарэмна! Вокны заклеены жоўтымі газетамі, даўнасць якіх вымяраецца, мусіць, гадамі.

Сярод гэтага хаосу і бескультур'я працуюць людзі—работнікі рэдакцыі, закліканыя быць праваднікамі культуры на вёсцы. Яны працуюць у такіх абставінах не месяц, не два. Мяняліся рэдактары газеты, але памяшканне рэдакцыі асталася тое самае. Толькі зараз таварышы з «Чырвонай Лагойшчыны» пачынаюць наводзіць у сябе парадак, распачалі рамонт памяшкання рэдакцыі.

Цяпер зразумела, чаму рэдактар «Чырвонай Лагойшчыны» не хоча да гэтага часу прыбіць шыльду на сваю ўстанову: людзям сорамна за сваю неахайнасць і бескультур'е. **А. ДАН.**



Архітэктары Воінаў і Столяр закончылі праект вучэбнага корпуса Ленінскага партыйнага гарадка. У корпусе будзе размешчана 28 аўдыторый, вялікая чытальня, актавая зала на 280 чалавек. У цэнтральнай часткі перад уваходам знаходзіцца водны басейн. НА ЗДЫМКУ: агульны выгляд пярэдняй часткі вучэбнага корпуса.

«ГУТАРКА ІДЗЕ АБ ВЫЛУЧЭННІ Ў ДРУК І СУР'ЁЗНЫМ НАВУЧАННІ ВЯЛІКАГА ЛІКУ РАБОЧЫХ І СЯЛЯНСКІХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ, ПРАЙШОЎШЫХ РАБСЕЛЬКОРАЎСКУЮ ШКОЛУ СУВЯЗІ З ГАЗЕТАЙ»

(«ПРАВДА»).

# Пачынаем вучобу рабселькораў

У нашу раённую газету **«Большэвіцкі змагар»** піша сістэматычна 120 селькораў, паміма таго рэдакцыя атрымлівае дзесяткі пісем ад працоўных раёна. Такім чынам удзел у газеце прымае досыць вялікая армія актыўных людзей, перадавікоў, ударнікаў розных галін нашай народнай гаспадаркі.

Да апошняга часу ўсе лепшыя матэрыялы, што змяшчаліся ў нашай газеце, — фельетоны, нарысы, артыкулы, — пісалі выключна работнікі рэдакцыі. Селькораўскі матэрыял падаваўся пераважна ў выглядзе так званых «каротківх сігналаў», яму адводзілася месца на апошняй старонцы. І гэта замест адвядзення селькору першага месца ў газеце, замест вучобы і выхавання яго, як аўтара сур'ёзных артыкулаў, карэспандэнцый.

Перад намі стаіць задача арганізаваць сур'ёзную вучобу рабселькораў, вырошчваць з іх аўтараў, грамадскіх супрацоўнікаў рэдакцыі. Па сутнасці гэту работу мы толькі пачынаем.

Што мы мяркуем правесці, каб ажыццявіць задачы ў галіне вучобы, выхавання, вырошчвання селькора?

Уся падрыхтоўчая арганізацыйная работа да завочнай вучобы селькораў намі ўжо праведзена. Мы ахопім гэтым відам вучобы 50 селькораў.

Пры газеце ствараем творчы актыў з ліку лепшых селькораў-актывістаў. З гэтых людзей мы будзем рыхтаваць работнікаў газеты. Кожнаму з іх дамо магчымасць адбываць па некалькі дзён вытворчую практыку ў рэдакцыі. Такой вучобай мы ахопім 10—15 чалавек.

Будзем практыкаваць кансультацыі для селькораў у рэдакцыі, або на месцы ў брыгадзе, калгасе, сельскім савеце па асобных пытаннях. Ствараем пры рэдакцыі кабінет селькора, дзе будзем практыкаваць выстаўкі насценгазет, робім фота-вітрыну «як робіцца газета».

У калгасах і сельсоветах будзем праводзіць селькораўскія дні. Тут мы мяркуем ставіць справаздачы рэдакцыі, яе асобных работнікаў, справаздачы асобных селькораў аб рабоце над сабой, вучобе, рабоце ў калгасе.

Лепшым сродкам вучобы і выхавання селькораў, а таксама паляпшэння работы насценных газет з'яўляюцца агляды насценгазет, агляды селькораўскіх пісем на старонках газеты; разбор пісем асобных селькораў, наступіўшых за пэўны адрэзак часу, перапіска з селькорамі. Такая работа будзе праводзіцца намі рэгулярна. Складзены план гэтых мерапрыемстваў, вызначаны адказныя за асобныя віды работы.

Некалькі слоў аб вучобе работнікаў рэдакцыі. Перш чым вучыць другіх, мы самі павінны быць падрыхтаванымі, культурнымі газетнымі работнікамі. А для гэтага абавязаны вучыцца, папаўняць свае веды.

Кожныя пяць дзён у рэдакцыі будзе праводзіцца вучоба па газетных дысцыплінах. На гэтых-жа занятках будзем калектыўна распрацоўваць кіруючыя матэрыялы з журналаў ЦК ВКП(б) «Большевистская печать», «Районная и политотдельская печать», з журнала ЦК КП(б)Б «Большэвіцкі друк», важнейшыя рашэнні партыі і ўрада. Такую вучобу мы ўжо распачалі і яна дае нам вельмі многае.

Калі раней не ўсе рэдакцыйныя работнікі чыталі важнейшыя пастановы партыі і ўрада, кіруючыя матэрыялы журналаў па газетнай рабоце, калі слаба чыталі мастацкую літаратуру, то цяпер арганізаваная вучоба прымушае кожнага працаваць над сабой.

**Адказны рэдактар ельскай раённай газеты «Большэвіцкі змагар»**

**В. СІДАРУК.**

# Вучобу рэдактароў трэба арганізаваць

— «Я незадаволен сваёй работай, — гаварыў мне рэдактар шматтыражкі **«Чырвоны бярэзінец»**, Бярэзінскага камбіната імя Кірава, тав. **Мішкін З.** — Рабочыя патрабуюць, каб газета была не толькі баявой і аператыўнай, але і цікавай па форме падачы матэрыялаў. І тут пачынаецца самае цяжкае для мяне: жыва апісаць тыя ці іншыя падзеі, паказаць у газеце стаханаўца-героя фабрыкі так, каб аб ім кожны рабочы хацеў пачытаць, каб гэты стаханавец выглядаў у газеце такім-жа, які ён ёсць у жыцці, — я не ўмею.

Мне трэба многа вучыцца, каб палепшыць газету і вучыць рабкораў. За гэта я зараз і ўзяўся з усёй сур'ёзнасцю. Вучуся ў школе партыйнага актыва пры фабрыцы, вывучаю гісторыю партыі, вучуся і на агульнаасветных курсах, дзе вывучаюць беларускую мову, геаграфію і матэматыку. Паміма гэтага чытаю мастацкую літаратуру. Як правіла, за месяц прачытваю не менш 4-х кніг. За апошнія месяцы прачытаў «Историю одного города» — Салтыкова-Шчэдрына, «Что делать?» — Чарнышэўскага, «Сын» — Мурашкі, прачытаў я і кнігі «Вокруг Европы» і «Образцовый город». Пры чытанні звяртаю асаблівую ўвагу на стыль і змест кнігі. Гэта безумоўна папаўняе мае веды. І ўсё-ж гэтага мала. Я думаю, што не толькі мне, але і многім іншым рэдактарам шматтыражак неабходна значна лепш ведаць газетную справу.

У нас ёсць раённая газета «Бальшэвік Барысаўшчыны». Многія работнікі газеты прыходзяць да нас за матэрыяламі. Але рэдка хто з іх пацікавіцца шматтыражкай, укажа і дапаможа ў рабоце. Аглядаў друку па маёй газеце за гэты год не было. А калі бываюць агляды другіх шматтыражак, то там больш лаянкі, чым вучобы.

Яшчэ адно пытанне. Па штату мне патрэбна мець двух работнікаў, а ёсць толькі адзін. Звярачаўся я і ў аддзел культуры і прапаганды ленінізма РК КП(б)Б, і ў раённую газету, але дапамогі не знайшоў. Дапамагае мне ва ўсёй рабоце сакратар парткома тав. **Бардман.** Але мне перашкаджае мая малая падрыхтаванасць, і таму яшчэ і яшчэ раз я ўзнімаю пытанне аб нашай вучобе».

Так гаворыць аб сваёй рабоце і вучобе рэдактар газеты «Чырвоны бярэзінец» тав. Мішкін Ізраіль.

Гэта думка не толькі аднаго т. Мішкіна. Вучобу рэдактароў трэба арганізаваць. Аб ёй многа гавораць, але мала, выключна мала зроблена. Няма адпаведнай увагі да рэдактароў з боку гарадскіх і раённых газет, дый рэдактары не выкарыстоўваюць усіх магчымасцей, якія ёсць для вучобы. Сістэматычна чытаючы такія журналы, як «Большевистская печать», «Фабрично-заводская печать», «Рабкресткор», «Бальшэвіцкі друк», рэдактар можа атрымаць шмат карыснага для сваёй работы.

Калі-б усе рэдактары ўзяліся за вучобу і большыя патрабаванні прад'яўлялі к сабе, бясспрэчна рэзультаты атрымаліся-б.

Але чаканне вучобы, якая павінна прыйсці аднекуль зверху, скоўвае ініцыятыву рэдактара, рэдактар не праяўляе патрэбнай настойлівасці і ўпартасці ў вучобе.

Вось у чым корань зла.

**Р. СІМХОВІЧ.**

---

**«Асноўная маса цяперашніх работнікаў друку — палітычна чэсныя людзі, якія гараць на рабоце, шчыра жадаюць рабіць газету яркай, цікавай, партыйна-вострай. Многім з іх не хапае ўмення, вопыта, газетнай выучкі. Але яны ў значнай меры безнадзорны, не атрымліваюць належнай штодзеннай дапамогі і кіраўніцтва ні ад гарадскіх і раённых камітэтаў партыі, ні зверху — ад культпропаў, крайкомаў і абкомаў».**

**(«ПРАВДА»)**

# Рэдакцыя мне не дапамагае

Больш месяца ўжо, як я працую інструктарам **лёзнянскай** раённай газеты **«Ленінскі сцяг»** За гэты час я ні ад каго з работнікаў ні разу не атрымаў канкрэтнай дапамогі, ні разу не атрымаў указанняў у рабоце.

Горш таго. Я заўважваю, што мяне проста ігнаруюць у рэдакцыі, мой матэрыял не прапускаецца ў газету.

Вось факты. Я напісаў у газету матэрыял аб тым, як тав. Кавалёва — член ЦВК — у калгасе «Новае жыццё. Крынкаўскага сельсовета, змагаецца за разгортванне стаханаўскага руху.

Апісаў злёт лепшых ільнотрапальшчыц-стаханавак Каралеўскага сельсовета, арганізаваў выступленне лепшай ільнотрапальшчыцы, якая натрапала за дзень 47 з паловай кіло ільну. Усе гэтыя мае допісы ляжаць нескарыстанымі.

Чатыры мае заметкі пра жыўёлагадоўлю, дзве заметкі аб парушэнні ў калгасах статута сельгасарцелі таксама не даны ў газеце.

А вось работнік газеты Шуранкоў у кожным нумары дае па 3—4 заметкі пад рознымі псеўданімамі.

Пасля такіх адносін да мяне з боку кіраўніцтва рэдакцыі, працаваць у лёзнянскай газеце мне вельмі цяжка.

**Сц. ШАІРКА.**

# Паклапаціцеся аб умовах работы

Наша газета «Комуністычны шлях» (м. Крупкі) не раз пісала аб неабходнасці ўважліва і штодзенна клапаціцца аб кожным сумленным работніку, аб «малым» і «вялікім». Але атрымліваецца зусім іншы малюнак, калі паглядзець, як наш рэдактар тав. **Сушчэўскі** клапоціцца аб работніках рэдакцыі.

Я і карэктар тав. **Ляшкоў** не маем кватэр. Між іншым, я працую ў рэдакцыі ўжо сем месяцаў. Увесь час кожны дзень хаджу начаваць за 9 кілометраў у калгас. Зразумела, як гэта адбіваецца на маёй рабоце і на вучобе.

Зарплата работнікам рэдакцыі выплачваецца нясвоечасова. На ўсе нашы скаргі тав. Сушчэўскі дае адзін адказ:

— Што-ж зробіш, бюджэт, выдаткавалі ўсе сродкі.

Але ці з'яўляецца гэта апраўданнем таго, што супрацоўнікам нашай газеты не створаны нават самыя неабходныя ўмовы для нармальнай работы?

**МІХ. КАЛАЧЫНСКІ— супрацоўнік газеты «Комуністычны шлях».**



**У Менску будуецца новая гасцініца. НА ЗДЫМКУ: праект гасцініцы.**

Фото БЛЕДЗЬКО.

**ТРЫБУНА** *вопыту*

# ПЕРШЫ ГАБІНЕТ РАБКОРА

Невялікі пакой у клубе металістаў упрыгожаны партрэтамі нашых правадыроў — Леніна, Сталіна, Варашылава; чырвоныя палотнішчы з лозунгамі, выстаўка насценных газет, выстаўка літаратуры па газетнай справе, бібліятэка з творамі Леніна, Сталіна і класікаў рускай літаратуры. Гэта — габінет рабкора пры заводзе імя Варашылава.



Калгасны аркестр-джаз Хойніцкага раёна.

Кожны дзень у габінет рабкора прыходзяць рабочыя завода, рабкоры, рэдактары насценгазет. Адны прыходзяць, каб напісаць заметку ў заводскую газету **«Варашылавец»**, другія—рыхтаваць свежыя нумары сваіх цэхавых і брыгадных газет. Тут-жа ў габінеце, на добрай канапе, можна прачытаць свежую газету, журнал. Ёсць тут і розныя ігры.

Ужо 4 месяцы працуе габінет рабкора. За гэты час праведзена вялікая работа сярод рабкораў завода. Рэдакцыя газеты «Варашылавец» складае штомесячны план работы габінета і сочыць за яго выкананнем.

Пры габінеце арганізован **семінар рэдактароў насценгазет.** Прапрацаваны такія тэмы: як лепш афарміць насценгазету, як скласці план работы рэдкалегіі, як пісаць заметку і т. д. У якасці кіраўнікоў былі запрошаны выкладчыкі з КІЖ'а і работнікі цэнтральнага друку. Пасля кожных заняткаў (на якіх звычайна прысутнічала да 20 чалавек) мы арганізоўвалі культпаходы ў кіно і тэатр. Так мы глядзелі оперу «Кармен» і розныя кінофільмы.

Вакол габінета створан невялікі рабкораўскі актыў, які значна дапамагае нам у рабоце. Лепшыя рэдактары насценгазет тт. **Браўдэ, Платкоў, Герцык** дзяжураць у габінеце і даюць кансультацыі па пытаннях, звязаных з

выпускам насценгазет. Такія дзяжурствы-кансультацыі бываюць вельмі часта.

Лепшыя насценгазеты завода вывешваюцца ў габінеце. На заводскім злёце стаханаўцаў была арганізавана выстаўка тых цэхавых насценгазет, якія дапамаглі ў разгортванні стаханаўскага руху. У габінеце ёсць дошка, **«як трэба і як нятрэба выпускаць газету».** Тут на жывых прыкладах — на сваіх-жа насценгазетах рэдактары вучацца, як трэба афармляць матэрыял у газету. Ёсць і асобны аддзел з выразкамі з розных журналаў, пад загалоўкамі: «ініцыятыва і вопыт», «ляп-ляпкіны за работай» і інш.

Пры габінеце арганізован **фотагурток.** Кіраўнік гуртка — рабочы нашага завода т. **Паўлоўскі** — навучыў групу рабкораў фатаграфіі, і зараз яны дапамагаюць у рабоце шматтыражкі.

На заводзе шмат рабкораў, якія добра малююць. Мы намецілі арганізаваць гурток карыкатурыстаў, але не атрымалі дапамогі ад саюза мастакоў БССР і справу яшчэ не давялі да канца.

У габінеце рабкора **працуе гурток па вывучэнню англійскай мовы,** які наведваецца большасцю рабкораў. Зараз арганізован **літаратурны гурток.**

У адзін з выходных дзён габінет арганізаваў экскурсію рабкораў і рэдактароў насценгазет у друкарню «Звязды». Там рабкоры пазнаёміліся з тым, як друкуецца заводская газета «Варашылавец».

У далейшым мы думаем палепшыць масава-выхаваўчую работу і ўцягнуць у работу габінета больш актыў рабкораў, а таксама працягваць з імі вучобу.

Мы думаем прыцягнуць да работы ў габінеце ўвесь актыў завода, парторгаў, прафоргаў, з тым, каб і яны прымалі ўдзел у рабоце нізавога друку.

Вялікім недахопам з'яўляецца тое, што наш габінет рабкора рэдка наведваюць работнікі цэнтральных газет. Яны маглі-б аказаць нам вялікую дапамогу, тым больш, што гэта першы габінет рабкора ў Менску.

**Г. І. ЭЛЬТЭРМАН.**

## ПРЫКЛАДНЫ ПЛАН РАБОТЫ ГАБІНЕТА ДРУКУ ПРЫ ЗАВОДЗЕ ІМЯ ВАРАШЫЛАВА

**(К артыкулу «Першы габінет рабкора»).**

**16 верасня.** — Кансультацыя. Нарада рэдактароў сумесна з парторгамі і прафоргамі — **Фелер.**

**17 верасня.** — Кансультацыя. Нарада рэдактароў цэха шырспажыву сумесна з парторгамі і прафоргамі — **Эльтэрман.**

**18 верасня.** — Заняткі семінара рэдактароў і рабкораўскага актыва. Тэма: «Як скласці план газеты» — **Фелер.**

**19 верасня.** — Кансультацыя. Нарада рэдактароў МГА сумесна з парторгамі і прафоргамі — **Браўдэ.**

**20 верасня.** — Заняткі фотагуртка — **Паўлоўскі.**

**21 верасня.** — Выхадны дзень. Раніцой у 11 гадзін экскурсія ў друкарню. У 6 гадзін увечары заняткі семінара рэдактароў і рабкораўскага актыва. Тэма «Як пісаць і апрацоўваць заметку». Заняткі праводзіць т. **Зерніцкі** (КІЖ). Пасля заняткаў калектыўны паход у кіно.

**22 верасня.** — Кансультацыя. Нарада рэдактароў токарнага цэха сумесна з прафоргамі і парторгамі — **Герцык.**

**23 верасня.** — Кансультацыя. Нарада рэдактароў кацельнага цэха сумесна з парторгамі і прафоргамі — **Платкоў.**

**24 верасня.** — Заняткі гуртка карыкатурыстаў-мастакоў. Нарада рэдкалегій рамонтнага цэха сумесна з парторгамі і прафоргамі — **Саўко.**

**25 верасня.** — Кансультацыя. Нарада рэдкалегій слясарнага цэха — **Фелер.**

**26 верасня.** — Кансультацыя, разбор вышаўшага нумара газеты «Варашылавец» — **Фелер.**

**27 верасня.** — Выхадны дзень. Заняткі семінара рэдактароў і рабкораўскага актыва. Тэма: «Як рабіць насценгазету». Пасля заняткаў калектыўны паход у тэатр — **Сімховіч** («Большэвіцкі друк»).

**28 верасня.** — Кансультацыя. Нарада рэдактароў ліцейнага цэха сумесна з парторгамі і прафоргамі — **Платкоў.**

**29 верасня.** — Кансультацыя. Разбор шахматных задач, змешчаных у газеце «Варашылавец» за верасень — **Браўдэ.**

**30 верасня.** — Кансультацыя. Заняткі фотагуртка (т. **Паўлоўскі, Эльтэрман).**

# Што мне даў учот рабкораў

Не раз нам, рэдактарам шматтыражак, гаварылі, што трэба завесці дасканалы ўчот рабкораў і паступаючых у газету карэспандэнцый.

Але трэба прама сказаць, што на ўсё гэта мы глядзелі, як на лішнюю непатрэбную справу. Калі я наладзіў учот, то ўпэўніўся, што гэта далёка не так. Учот — не звычайная тэхнічная работа. Гэта сродак барацьбы за дзейснасць кожнай заметкі, барацьбы за рост рабкораў. Што гэта так, я хачу паказаць на сваім уласным вопыце.

З чаго я пачаў? У журнале **«Рабоче-крестьянский корреспондент»** была надрукавана прыкладная форма ўчоту рабкораў і паступаючых карэспандэнцый. Форму гэтай анкеты я размножыў у сотнях экземпляраў. Анкета разбіта на графы: прозвішча, імя і па бацьку, кім працуе, удзел у грамадскім і вытворчым жыцці, удзел у рабоце друку, дата паступлення заметкі, змест яе і вынікі рэагавання. Па такой схеме я і завёў зараз учот рабкораў і паступаючых заметак. Увечары я заношу ў анкету паступіўшыя за дзень заметкі і адзначаю дзейснасць змешчаных у газеце рабкораўскіх карэспандэнцый.

Актыўны рабкор завода тав. **Максімаў** перастаў пісаць у газету. Гэта я заўважыў па яго анкеце. Калі я пагаварыў з ім, мне стала ясна, што Максімаў перастаў пісаць таму, што ніхто не рэагуе на яго заметкі, змешчаныя ў цэхавой насценгазеце.

Праз партарганізацыю я дабіўся ад адміністрацыі неадкладнага рэагавання на ўсе заметкі, апрача таго сам растлумачыў Максімаву, як павінен працаваць рабкор-ударнік. Пасля гэтага Максімаў зноў пачаў прымаць актыўны ўдзел у газеце.

Прыглядаючыся да анкетных даных, можна бачыць значны рост рабкораў. Узяць хоць-бы рабкора **Кашыцкага.** У пачатку ён зусім не мог напісаць заметку, а зараз ён сам рэдагуе насценгазету клеевarнага цэха. Або другі рабкор **Кадушын.** Раней ён пісаў дробныя заметкі, а зараз піша нядрэнныя артыкулы на партыйныя і вытворчыя тэмы.

Учот паказаў, што з 107 членаў і кандыдатаў партыі завода ў шматтыражку пішуць толькі 30. Удзел парторгаў у газеце зусім слабы. Адсюль недастатковае асвятленне партыйнага жыцця на старонках шматтыражкі. На адным з партыйных сходаў я ўзняў пытанне аб удзеле комуністаў у рабоце газеты. Гэта дало магчымасць палепшыць асвятленне партыйнага жыцця ў шматтыражцы. Парторгі: **Аксельрод, Кадушын, Крахмальнікаў** сталі актыўнымі рабкорамі. У рабоце газеты прымаюць удзел 12 кандыдатаў партыі.

У графе анкеты «Вынікі» можна зараз бачыць такія факты. У газеце была змешчана заметка рабкора **Зорхіна** аб дрэннай падрыхтоўцы фарбавальна-дубільнага цэха да зімы. Калі праз 10 дзён праверылі дзейснасць заметкі, аказалася, што дзверы ўжо адрамантаваны, устаўлены 2 новыя вокны, зацяклілі цэхавы ліхтар.

Учот мне паказаў, што з 157 рабкораў—выдатнікаў тэхвучобы 78, стаханаўцаў 50, членаў і кандыдатаў партыі 53, інжынераў, тэхнікаў і майстроў 23. У грамадскім жыцці завода прымаюць актыўны ўдзел 83 рабкоры. Ведаю таксама, што з 5 чэрвеня па 1 лістапада шматтыражка атрымала 332 карэспандэнцыі, а змясціла з іх 315.

Я выявіў, што з 157 рабкораў 70 нерэгулярна пішуць у шматтыражку. У сувязі з гэтым у бліжэйшы час я мяркую правесці спецыяльную нараду з гэтымі рабкорамі. Учот паказаў, што многія рабкоры пішуць толькі аб вытворчых ці аб партыйных пытаннях. Мы хочам, каб рабкоры ўзнімалі і іншыя разнастайныя пытанні, каб яны пашыралі тэматыку нашай газеты і навучыліся лепш пісаць у шматтыражку. У бліжэйшыя дні на заводзе будзе арганізован семінар актыўных рабкораў па пытанню тэматыкі газеты.

Лічу неабходным адзначыць, што ўчот прынясе вялікую карысць толькі тады, калі кожны рэдактар шматтыражкі зробіць з яго адпаведныя практычныя вывады, а не звядзе да тэхнічнага фармальнага ўчоту.

**Рэдактар шматтыражкі завода «Большэвік» МІНКІН З.**

# КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ І ЯЕ МЕСЦА У ГАЗЕЦЕ

★★★ · М. ЗЕРНІЦКІ. ★★★

Велізарны размах нашага соцыялістычнага будаўніцтва, рост заможнасці рабочых і калгаснікаў, вялікі культурны ўздым у краіне настойліва патрабуюць значнага паляпшэння якасці нашых газет.

«Краіна наша, — пісала **«Правда»** ў перадавым артыкуле ад 5 мая, прысвечаным дню друку 1935 года, — уступае ў новы перыяд росквіту совецкага дэмакратызма. Шматмільённая маса чытачоў нашых газет узнялася і ўзнімаецца зараз на такія вышыні культуры і палітычнай актыўнасці, аб якіх толькі марыць можна было некалькі гадоў назад. Ад газеты патрабуюць партыя і маса чытачоў, каб яе старонкі былі яркімі, свежымі, каб друкаваная агітацыя і прапаганда не былі сухімі, прэснымі, каб квітнеючае жыццё нашай вялікай радзімы знаходзіла дастатковы водгук на старонках друку».

Нашы газеты зараз ужо не могуць і не павінны абмяжоўвацца аднымі толькі заметкамі, кароценькімі паведамленнямі аб асобных фактах з жыцця раёна. Нашым газетам неабходна карэспандэнцыя з паглыбленай пастаноўкай найбольш важных вытворчых пытанняў, з жыцця прадпрыемстваў раёна, калгасаў, МТС і соўгасаў, неабходна карэспандэнцыя, дзе разгорнута ставяцца пытанні культурнага будаўніцтва ў асаблівасці. Вось патрабаванні, якія прад'яўляюцца зараз рабселькораўскай карэспандэнцыі, прызначанай для друкавання ў газеце.

Неабходна асабліва падкрэсліць вялікае значэнне рабселькораўскай карэспандэнцыі, як адной з дзейсных форм праяўлення шырокай крытыкі і самакрытыкі з боку рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных.

У сваёй прамове ад 30 ліпеня 1935 г. таварыш **Сталін**, нястомна выхоўваючы партыю і ўсіх працоўных у духу самакрытыкі, зноў патрабаваў не замазваць недахопаў, прыслухоўвацца да голасу нізавых работнікаў.

Рабселькораўская карэспандэнцыя і ёсць такая форма праяўлення самакрытыкі праз друк рабселькорамі, перадавымі рабочымі і калгаснікамі, якія прымаюць актыўны ўдзел у соцыялістычнай будоўлі непасрэдна ў нізах, у масах.

Вось у чым вялікае значэнне патрабавання: узняць удзельную вагу рабселькораўскай карэспандэнцыі на старонках нашых газет. Толькі такім чынам газета ўзмоцніць сувязь з масамі працоўных свайго раёна, зможа больш поўна і своечасова адгуквацца на ўсе хвалюючыя масы чытачоў запатрабаванні. Толькі такім чынам газета стане актыўным удзельнікам грамадска-палітычнага і гаспадарчага жыцця свайго раёна і ўсёй нашай вялікай краіны.

***

У сувязі з высокім узроўнем патрабаванняў, што прад'яўляюцца зараз да карэспандэнцыі, многія рэдакцыі газет скардзяцца, што вялікая колькасць паступаючых да іх карэспандэнцый рабселькораў вельмі нізкія па якасці — нявострыя, нецікавыя. Гэтыя карэспандэнцыі не могуць быць змешчаны ў друку, яны яшчэ часта стаяць ніжэй патрабаванняў, якія прад'яўляе чытач да нашай газеты.

Але вінаваты ў нізкай якасці карэспандэнцый рабселькораў самі рэдакцыі газет. Як зусім правільна ўстанавіла нарада работнікаў рабселькораўскага руху, якая адбылася ў красавіку 1935 года*), нізкая якасць рабселькораўскага матэрыялу — рэзультат таго, што многія га-

*) Пашыраная нарада рэдакцыі журнала „Рабоче-крестьянский корреспондент» разам з работнікамі рабселькораўскага руху адбылася 8—10 красавіка 1935 г.

зеты недаацэньваюць непасрэднага ўдзелу рабселькораў у газеце, ролі іх, як аўтараў, карэспандэнтаў, грамадскіх супрацоўнікаў. Гэтыя газеты забываюць якраз, што складае галоўнае звяно ў рабоце рабселькора, як аўтара: яго «прадукцыю»—карэспандэнцыю.

***

У чым асаблівасці, адрозніваючыя рысы карэспандэнцыі ад заметкі?

Разгорнутая карэспандэнцыя — пры радзе агульных падобных рысаў з рабселькораўскай заметкай — мае і істотныя адрозніваючыя рысы.

У заметцы, як правіла, асвятляецца адзін факт (або некалькі фактаў), прычым тэма заметкі амаль не разгортваецца, аўтар абмяжоўваецца толькі кароткай ацэнкай — палітычным вывадам з прыведзенага факта.

Карэспандэнцыя — гэта больш высокая форма газетнага матэрыялу. У карэспандэнцыі звычайна асвятляецца адно пытанне, але ў больш разгорнутым выглядзе, па тэтаму пытанню прыцягваецца рад фактаў, паказваецца іх узаемная сувязь, даецца разгорнуты паказ асобных з'явішчаў. Трактоўка фактаў у карэспандэнцыі больш паглыбленая, нярэдка аўтар ад прыватнага, падчас як быццам выпадковага, нязначнага на першы погляд факта, прыходзіць к вялікім палітычным абагульненням і вывадам.

Такая пастаноўка пытання ў карэспандэнцыі ў злучэнні з жывым яркім літаратурным афармленнем робіць іх (карэспандэнцыі) вельмі важным па свайму палітычнаму значэнню матэрыялам у газеце, найбольш уздзейнічаючым, даходчывым да самых шырокіх мас чытачоў, у найбольшай меры адказваючым іх нязмерна вырасшым культурным патрабаванням.

Пяройдзем зараз да разгляду асобных пытанняў работы над карэспандэнцыяй і заметкай рабселькораў.

Разгледзім пытанні, звязаныя з работай над карэспандэнцыяй, як больш высокай формай газетнага матэрыялу, і адрозніваючыя рысы карэспандэнцыі ў параўнанні з заметкай.

З гэтай мэтай разбяром некалькі карэспандэнцый з ЦО нашай партыі «Праўды» і з «Известий», каб на прыкладах гэтых лепшых у Совецкім Саюзе газет паказаць, у чым адрозніваючыя рысы разгорнутай карэспандэнцыі ў газеце і як трэба працаваць над літаратурным афармленнем карэспандэнцыі.

Разгледзім змест карэспандэнцыі, змешчанай у «Праўде» за 7 жніўня 1935 года.

## ІЛЖЭКОМУНІСТ АБРАМЧЫК І ЯГО ПАКРАВІЦЕЛІ.

**(Ад беларускіх карэсп. «Праўды»)**

Пастух соўгаса «Вейна» Савасцееў пасвіў соўгаснае стада. Раптам да яго падляцеў на ліхім жарабцы дырэктар соўгаса Абрамчык.

Не паспеў пастух апомніцца, як бізун Абрамчыка са свістам апусціўся на твар. Савасцееў паспеў толькі прыкрыць твар рукамі. Абрамчык прадаўжаў хлястаць яго бізуном па руках і спіне.

Збіты Савасцееў прыбег у палітаддзел соўгаса. Рабочыя соўгаса патрабавалі прыцягнення дырэктара да крымінальнай адказнасці. Але палітаддзел рашыў «узяць ініцыятыву ў свае рукі». Сабралася парттрупа, выслухала абяцанне Абрамчыка «больш не паўтараць падобных учынкаў», асудзіла яго за «саноўна-панскія адносіны да рабочых і невыкананне дырэктыў партыі аб жывым чалавеку» і... пастанавіла абвясціць яму суровую вымову з папярэджаннем.

Агульны сход рабочых, пад націскам палітаддзела, вынес рэзалюцыю, у якой «адобрыў» пастанову парттрупы. Толькі праз два тыдні гэтай гісторыяй надумаліся заняцца Магілеўскі райком партыі і палітчасць Свінаводтрэста. Яны рашылі... згадзіцца з пастановай парттрупы соўгаса. Райком партыі і палітчасць трэста па сутнасці ўзялі пад абарону Абрамчыка. Збіванне рабочага яны тлумачылі «нячуласцю» Абрамчыка.

Можна было-б прывесці многа прыкладаў антысовецкіх адносін Абрамчыка да рабочых. Гэта ён распарадзіўся не даваць каня, каб прывезці хворую цяжарную работніцу Цывіну з гарадской больніцы і ёй прышлося ісці 13

кілёметраў да соўгаса. Але палітаддзел соўгаса, палітчасць трэста і райком партыі прадаўжаюць укрываць ілжэ-комуніста.

Думаецца, што Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі Беларусі скажа сваё слова не толькі аб Абрамчыку, але і яго пакравіцелях.

Ф. Вігдаровіч.
І. Лук'яновіч».

У гэтай карэспандэнцыі закранут не рад пытанняў, а па сутнасці, усяго толькі адно — аб збіванні пастуха. Выкрываецца агідны твар пралезшага ў партыю чужака, абнаглелага да таго, што ён не спыніўся нават перад збіваннем рабочага соўгаса — факт у нашай краіне з раду вон выходзячы.

Гэты факт (збіванне рабочага) і рэагаванне на яго з боку Магілеўскай партарганізацыі нечакана раскрывае з усёй бязлітаснасцю непрыглядную карціну становішча партмасавай работы ў Магілеўскай партарганізацыі, што стварыла спрыяючую абстаноўку для расхадзіўшагася чужака.

Адсюль зусім правільнай з'яўляецца пастаноўка ў карэспандэнцыі пытання перад ЦК КП(б)Б аб тым, каб ён сказаў сваё слова не толькі аб Абрамчыку, але і аб яго пакравіцелях, іншымі словамі не толькі аб гісторыі са збіваннем пастуха, але і аб кіраўніках Магілеўскай партарганізацыі. Вось якія важныя, далёка ідучыя палітычныя вывады выцякаюць толькі з аднаго эпізода, прыведзенага ў карэспандэнцыі.

Звернемся цяпер да разгляду прыёмаў літаратурнага афармлення матэрыялаў, выкарыстаных у карэспандэнцыі.

Заслугоўваюць увагі першыя радкі. З чаго пачынаюць аўтары сваю карэспандэнцыю? Не з далёкіх разважанняў, а проста з першых-жа радкоў дзейнічаюць жывыя людзі. У першым сказе мы чытаем: «Пастух соўгаса «Вейна» Савасцееў пасвіў соўгаснае стада». Пастух быў на пасту і рабіў сваю звычайную справу, нічога асаблівага не чакаў.

Але... «Раптам да яго падляцеў на ліхім жарабцы дырэктар соўгаса Абрамчык».

Звярніце ўвагу: дырэктар не пад'ехаў, а «падляцеў на ліхім жарабцы».

Затым... «Не паспеў пастух апомніцца, як бізун Абрамчыка са свістам апусціўся на твар. Савасцееў паспеў толькі прыкрыць твар рукамі. Абрамчык яго хлястаў бізуном па руках і спіне».

Нельга без хвалявання чытаць гэтыя радкі. Перад чытачом на мінуту прамільгнула цень памешчыка-прыгонніка ва ўсёй яго агіднай постаці. На самой справе, хто як не памешчык (у мінулым) мог так збіваць, хлястаць бізуном пастуха? Тут не проста бесстаронняе апісанне жудаснай карціны, а ў кожным радку вы выразна адчуваеце гнеў, абурэнне, нянавісць аўтара к вырадку Абрамчыку, які адважыўся збіць пастуха.

Вось першая частка карэспандэнцыі, дзе чытач разам з аўтарамі быццам аказаліся сведкамі гэтай дзікай сцэны.

У наступнай частцы карэспандэнцыі даецца характарыстыка таго, як рэагавалі на гэту расправу Абрамчыка мясцовыя арганізацыі — палітаддзел, партгрупа, агульны сход рабочых соўгаса і, нарэшце, як рэагаваў на гэту гісторыю Магілеўскі РК КП(б)Б і палітчасць Свінаводтрэста. Прыводзіцца ў сціслай форме матэрыял, і разам з тым кожны момант суправаджаецца кароткай палітычна-насычанай характарыстыкай.

У нямногіх радках, у асобных вытрымках з рашэння партгрупы ўжо дана рэзкая, знішчаючая характарыстыка фармальна-бюракратычным метадам рэагавання з боку партгрупы. Таксама робяць аўтары і ў адносінах рашэння Магілеўскага райкома. З пункту погляду літаратурнай апрацоўкі матэрыялу ўсё гэта дасягнута ўмелым выбарам вытрымак з пастановы і прывязданнем іх у паслядоўным парадку ў адпаведнасці з агульным планам карэспандэнцыі.

Гэта карэспандэнцыя — узор таго, як трэба палітычна чула падыходзіць да адбору фактаў з акружаючага нас жыцця і ацэнкі іх. Гэта карэспандэнцыя — узор палітычна-завостранай, большэвіцкай пастаноўкі пытання. У гэтым яе галоўная вартасць.

Праўдзівасць фактаў, выкарыстоўваемых у карэспандэнцыі, правільная большэвіцка-прынцыповая пастаноўка пытання на аснове прыведзеных фактаў — усё гэта ў злучэнні з жывым, яркім літаратурным афармленнем матэрыялу непамерна ўзмацняе ўздзейнічаючае значэнне карэспандэнцыі.

Такая карэспандэнцыя дойдзе да самых шырокіх слаёў чытачоў — партыйцаў, ра-

бочых, калгаснікаў і зробіць сваю вялікую большэвіцкую справу.

**Наступная** карэспандэнцыя — **узор разгорнутай пастаноўкі пытання** (аб кадрах соўгасных рабочых) і **выкарыстоўвання для** пастаноўкі гэтага пытання **раду фактаў, паказу іх узаемнай сувязі.**

Карэспандэнцыя гэта была змешчана ў «Праўдзе» за 12 мая 1935 года.

### ЗАБЫЛІ АБ ЛЮДЗЯХ

**(Ад чэлябінскага карэсп. «Праўды»).**

Яланскія «старажылы» добра памятаюць захапленне «мітынгамі машын», «пераклічкамі агрэгатаў».

Вось жылі машынамі і ім удзялялася выключная ўвага. Дырэктара соўгаса Волкава маглі лаяць за дрэнныя адносіны да камбайнаў, але яму даравалі няўважлівыя адносіны да людзей. Аб людзях у соўгасе не клапаціліся, як не клапоцяцца аб іх і зараз.

Гразь, клапы, бескватэр'е гналі і гоняць людзей з соўгаса. Толькі за два гады з соўгаса ўшло, вярней — збегла каля 200 камбайнераў.

Тры гады прапрацаваў у соўгасе трактарыстам і камбайнерам Сцяпан Ершоў. Падышоў чацверты год, і Ершоў раптам запіў, стаў бестурботным у рабоце. Ніхто не цікавіўся гэтай раптоўнай пераменай. Толькі потым даведаліся, што Ершову недзе было жыць. Ершоў абзавёўся сям'ёй, але кватэры ён не меў, заработную плату выдавалі са спазненнем на два-тры месяцы. Чалавеку не дапамаглі, не падыйшлі да яго чула.

Ушлі з чацвертага аддзялення кваліфікаваныя рабочыя Ісмагілаў і Іванулін.

Перадавыя калгасы абзавяліся нядрэннымі палявымі станамі. На станах — ложкі, чыстыя ручнікі і люстры. Добрым і сытным абедам кормяць брыгадныя павapыхі калгаснікаў.

Няма яшчэ ўсяго гэтага ў Яланскім зернасоўгасе. Нядаўна ў адной з брыгадных газет рабкор абурана пісаў, што «павapыха Вавуліна падае рабочым абед у бруднай сукенцы». Гэтае вялікае пытанне на старонках маленькай газеты было пастаўлена не выпадкова. Гутарка ідзе не толькі аб бруднай паварысе, гутарка ідзе аб адносінах да людзей, аб увазе да іх патрэб.

У Яланскім соўгасе моцны яшчэ старыя традыцыі: усю ўвагу ўдзяляюць цэнтральнай сядзібе.

Лепшыя дамы, школы і іншыя культурныя ўстановы пабудаваны на ўчастку цэнтральнай сядзібы дзе змяшчаецца дырэкцыя соўгаса. У аддзяленнях-жа, дзе згрупавана асноўная маса рабочых і ключом б'е вытворчае жыццё, — карлікавыя дамы і зямлянкі.

— Культуры ніякай няма, — гавораць рабочыя. Гэта правільна. Лазня на замку, у клубе — спячка, сотні рабочых і іх сем'і зваладаліся па культурнаму жыццю. У сувязі з гэтым трэба сказаць аб палітаддзеле і начальніку яго тав. Рашотнікаве. Палітаддзел забывае, што жывыя людзі — камбайнеры, трактарысты, кваліфікаваныя рабочыя вырашаюць цяпер усё.

Вось стаяць яны нерухома — 50 стэпавых караблёў-камбайнаў соўгаса. За імі няма каму дагледзець, іх няма каму рамантаваць, вялікую частку камбайнераў соўгас растраціў.

Прыдзе ўборка, і зноў можа паўтарыцца знаёмая карціна. З сяла ў сяло будуць імчацца соўгасныя «Форды», каб у пажарным парадку мабілізаваць людзей і выратаваць ураджай. Ёсць яшчэ часу для таго, каб выправіць становішча.

**Ал. Дунаеўскі».**

Гэта карэспандэнцыя — водгук з месц на гістарычную прамову правадыра нашай партыі тав. **Сталіна** аб кадрах. У карэспандэнцыі закранаецца толькі адно пытанне: аб адносінах да людзей, да кадраў соўгаскіх рабочых.

На канкрэтных мясцовых фактах паказваюцца недапушчальныя адносіны да людзей з боку дырэктара Яланскага соўгаса.

Аўтар вельмі ўдала выкарыстоўвае прыём антытэзы — процiпастаўлення, каб такім шляхам з усёй сілай падкрэсліць вялікую розніцу, якая мае месца ў гэтым соўгасе ў адносінах да машын і людзей.

Аўтар паказвае зусім недапушчальную абстаноўку, якая стварылася ў соўгасе ў адносінах да людзей і да якіх вынікаў гэта прыводзіць («Толькі за два гады з соўгаса ўшло, вярней збегла, каля 200 камбайнераў»).

У карэспандэнцыі далей паказваецца **узаемная** сувязь фактаў: якія вынікі та-

го, што ў соўгасе «забылі аб людзях»? 50 камбайнаў (аўтар іх называе «стэпавымі караблямі») стаяць нерухомымі, іх няма каму даглядаць, іх няма каму рамантаваць, вялікую частку камбайнераў соўгас страціў.

Пасля ўсіх прыведзеных фактаў становіцца зразумелым, наколькі востра для гэтага соўгаса стаіць пытане аб кадрах, асабліва ў сувязі з набліжэннем уборачнай. Гэты важнейшы заключны момант падан аўтарам у вобразнай форме, якая вельмі запамінаецца: «Ідзе ўборка, і зноў можа паўтарыцца знаёмая карціна. З сяла ў сяло будзе імчацца соўгасны «Форд», каб у пажарным парадку мабілізаваць людзей і выратаваць ураджай».

Ітак, што характэрна для гэтай карэспандэнцыі? У аснову ўзята адно пытанне — «аб кадрах соўгасных рабочых». Па гэтаму пытанню выкарыстаны рад фактаў, паказана іх узаемная сувязь. Пытанне ставіцца разгорнута, значна шырэй, глыбей, чым у звычайнай рабсельказаўскай заметцы. Тут, у карэспандэнцыі, пытанне аб кадрах на аснове канкрэтных мясцовых фактаў паўстае перад чытачом ва ўсёй сваёй велічыні. Яно ўзнята на вялікую прынцыповую вышыню. Чытаючы гэту карэспандэнцыю, мы яшчэ раз, на новым матэрыяле, упэўніваемся ў геніяльнай празорлівасці ўказанняў любімага правадыра партыі тав. **Сталіна.**

Такая разгорнутая пастаноўка пытання ў карэспандэнцыі і жывое літаратурнае афармленне ў найбольшай меры адказваюць запатрабаванням культурна вырасшага чытача нашых газет.

Мы разгледзелі карэспандэнцыі, як ужо закончаныя выступленні ў друку—у тым выглядзе, як яны з'явіліся ў газеце.

На прыкладзе карэспандэнцыі газеты «Известия» ад 11 мая 1935 г. пад загалоўкам «Неуместный вопрос» пазнаёмімся з этапамі папярэдняй работы па арганізацыі і падрыхтоўцы карэспандэнцыі к друку, якую прышлося прарабіць тав. В. Мяжэвічу — беларускаму карэспандэнту «Известий».

Вось тэкст гэтай карэспандэнцыі.

### «НЕУМЕСТНЫЙ ВОПРОС»

«У соўгасе «Райцы» сакратар райпарткома тав. Рахуба выступіў з дакладам аб культуры. Яго даклад блішчэў маляўнічымі прыкладамі, меў у сабе шмат упэўненых і пераканаўчых лічбаў. Усё ішло добра. Рабочыя ўважліва слухалі.

Але нечакана мірны ход справы быў парушан на першы погляд дробязным, але настаўленым ва ўпор пытаннем:

— Скажыце, таварыш дакладчык,— запытаў хтосьці з задніх радоў,—у вас у раённым цэнтры Талачыне, таксама павінна быць культура?

Наступіла працяжная паўза. Дакладчыка ахапіла замяшанне. Што меў на ўвазе чалавек, паставіўшы дакладчыку «каварнае пытанне?».

Адказ на гэта можна атрымаць, праходзячы па вуліцах раённага цэнтра Талачына.

Вось цэнтральная вуліца мястэчка— Аршанская. Яна цягнецца ад чыгуначнай станцыі к самаму цэнтру, к базарнай плошчы, вакол якой размясціліся амаль усе раённыя ўстановы. Звычайна прынята проціпастаўляць акраіне цэнтр, як узор чыстаты і парадку. У Талачыне акраіна ў параўнанні з цэнтрам — рай нябесны. Тут па крайняй меры менш чым у цэнтры рызыкі аставіць у гразі боты або патрапіць у яму з вадой.

У недалёкім мінулым на цэнтральнай вуліцы Талачына бесклапотна раслі ўсякія дэкаратыўныя дрэвы. Начальнік міліцыі аднойчы, арганізаваўшы суботнікі, ліквідаваў гэты вулічны беспарадак. У гэтым годзе рашылі зноў пачаць азеляненне вуліц. Ледзь зышоў снег, пачалі капаць ямы для будучых пасадак. На гэтым справа, аднак, прыпынілася. І вось цяпер сотні напоўненых вадой мелкіх і глыбокіх ям на кожным кроку падсцерагаюць праходжых.

Маставая ў мястэчку даўно ўжо пахавана пад вялікім пластом гразі. Па сярэдзіне базарнай плошчы, як карабль у моры, стаіць акружаны з усіх бакоў непраходнай дрыгвой універмаг. Нездагадлівыя абыватлі і прыезджыя калгаснікі падоўгу блукаюць вакол яго, дарэмна раздумваючы, як перабрацца ў магазін па сухапуццю. Найбольш адважныя фізкультурнікі, беручы вялікі разгон, скачуць праз твань на дошкі, пакладзеныя ля ўваходу. Іншы раз гэтыя вопыты праходзяць удала, але часцей смельчакі зрываюцца і пад

смех дасужых людзей ляцяць прама ў гразь.

Гразь праследуе талачынцаў усюды. Столі райвыканкомаўскага памяшкання зацягнуты густой сеткай павуціння, на вокнах тоўстыя пласты пылу. Ля дзвярэй габінета старшыні пастаянная лужыца вады. Дзе ўжо тут гаварыць аб культуры ў мястэчку, калі сам гаспадар раёна — райвыканком — акапаўся ў гразі? Чорныя столі, разламаныя пад'езды праследуюць вас усюды, куды-б вы ні пайшлі. Верх запусцення прадстаўляе сабой мясцовая гасцініца. З пакоя ў пакой, ва ўсіх на вачах, нават удзень, вандруюць атрады клапоў. Адміністрацыя на абураючыя заявы пастаяльцаў меланхалічна апраўдваецца адсутнасцю сродкаў для рамонту.

Між іншым грошай не хапае не толькі на рамонт гасцініцы. У гэтым годзе зусім не змаглі нічога выкраіць, каб набыць у раённую бібліятэку хоць-бы якія-небудзь новыя кнігі. Дарэмна 300 чытачоў шукаюць літаратуру аб VII з'ездзе советаў, аб з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў. Нават прыкладнага статута сельскагаспадарчай арцелі бібліятэка не мае. Па чутках чытачы бібліятэкі ведаюць аб Шолахаве. «Тихий Дон» Шолахава астаўся ў памяці ў былой загадчыцы бібліятэкі Двошкінай. Ад «Брусков» Панфёрава асталася ў бібліятэцы першая частка на беларускай і другая на яўрэйскай мовах. Ёсць другая частка «Цусимы» Новікава-Прыбоя, а першай ніколі не было.

Ніхто з раённых кіраўнікоў ніколі нават не выслухоўваў скарг бібліятэкара тав. Брушко аб дапамозе ў папаўненні кніжнага фонду і гаварыць няма чаго.

Ні адзін раённы кіруючы работнік не карыстаўся паслугамі бібліятэкі. Нават дакладчык аб культуры т. Рахуба ніколі не пераступаў бібліятэчнага парога.

Няма чым падмацаваць талачынскім кіраўнікам сваіх размоў аб культуры. **В. Мяжэвіч».**

Азнаямленне з працэсамі работы над гэтай карэспандэнцыяй паказвае, што аўтару прышлося прарабіць вялікую папярэднюю работу да моманта напісання самой карэспандэнцыі.

Пытанне, пастаўленае ў карэспандэнцыі — аб культуры раённага цэнтра — вывучалася аўтарам на працягу досыць доўгага часу. Назіранні па гэтаму пытанню карэспандэнт вёў пры сваіх выездах у рад іншых раёнаў Беларусі. Ён накапіў шмат фактаў, адзначыў нямала асобных штрыхоў, рысачак па таму-ж пытанню ў розных мясцах.

Але найбольш тыповыя, характэрныя для многіх іншых раёнаў моманты выявіліся ў Талачыне. Таму карэспандэнт прышоў да вываду, што пытанне аб культуры раённага цэнтра ён паставіць на канкрэтным матэрыяле Талачынскага раёна. Уся праробленая да гэтага моманта работа — накапленне матэрыялу ў радзе іншых раёнаў, адбор найбольш характэрных фактаў, усебаковая праверка фактаў па Талачыну — была, аднак, толькі папярэдняй ступенню к працэсу напісання карэспандэнцыі.

Трэба было таксама прадумаць і пытанне аб форме літаратурнай падачы матэрыялу ў газету.

Запісаць, зарэгістраваць факты—гэта ўжо вельмі проста, але-ж у такой форме карэспандэнцыю безумоўна не змясцілі-б у «Известиях», або калі ўмоўна прадставіць сабе такога тыпу карэспандэнцыю ў газеце, яна не прыцягнула-б увагі чытача. Трэба было выбраць такую форму падачы матэрыялу, якая аказалася-б найбольш цікавай, даходчывай і ўздзейнічаючай на чытача. У працэсе арганізацыі матэрыялу было вырашана гэта пытанне.

Пяройдзем цяпер да больш падрабязнага разгляду самой карэспандэнцыі «Неуместный вопрос».

Перш за ўсё, у чым прынцыповае значэнне гэтай карэспандэнцыі?

Карэспандэнцыя ва ўсю шырыню ўзнімае вялікай палітычнай важнасці пытанне аб культуры раённага цэнтра. Зараз, калі мы вядзем грандыёзнейшае будаўніцтва ў гарадах, калі барацьба за паляпшэнне матэрыяльнага і культурнага дабрабыту працоўных не выходзіць з парадку дня, — пытанне культуры раённага цэнтра набывае вялікае палітычнае значэнне, як адзін з момантаў ліквідацыі процілегласці паміж горадам і вёскай. Ператварэнне раённага цэнтра ў культурны цэнтр —адна з важнейшых задач партыйнага і совецкага кіраўніцтва раёна.

**Вось чаму набываюць асаблівае значэнне факты бескультур'я, якія ўскрыты карэспандэнтам у Талачыне.**

**Якія асноўныя моманты ў карэспандэнцыі?**

Карэспандэнцыя паказвае сакратара райкома, які не заўважвае, што горад тоне ў гразі.

З карэспандэнцыі мы даведваемся, што «Акапаўся ў гразі і сам райвыканком». Наогул куды-б ні пайшоў у Талачыне — усюды праследуюць чорныя столі, разломаныя пад'езды.

Сакратар райкома, нічога гэтага не заўважваючы, робіць даклад аб культуры, перапаўняе яго малярўнічымі прыкладамі. І раптам на дзіва дакладчыка з месца задаецца каварнае і «неуместное» пытанне.

— Скажыце, таварыш дакладчык, у вас, у раённым цэнтры Талачыне, таксама павінна быць культура?

І аўтар, замест адказу на гэта «неуместное» пытанне сумесна з чытачом робіць экскурсію па вуліцах горада.

Адсюль аўтар вядзе чытача ў райвыканком, потым у гасцініцу і паказвае, што «гразь праследуе талачынцаў усюды».

Канчаецца экскурсія наведваннем бібліятэкі, дзе нельга нават знайсці літаратуры аб 7 з'ездзе советаў, аб з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў; аб творах Шолахава, Новікава-Прыбоя, Панфёрава, Алексея Талстога і іншых вядомых совецкіх пісьменнікаў і гаварыць няма чаго.

І аўтар справядліва робіць вывад, што «няма чым падмацаваць талачынскім кіраўнікам сваіх гутарак аб культуры».

Такі план літаратурнай падачы гэтай карэспандэнцыі.

Ітак, вялікая падрыхтоўчая работа па збіранню і адбору найбольш тыповых па данаму пытанню фактаў, усебаковая праверка іх, уважліва прадуманы план літаратурнага афармлення матэрыялу—вось што забяспечыла высокую якасць карэспандэнцыі. Сур'ёзнейшае прынцыповае пытанне, узнятае ў карэспандэнцыі, аўтар перадаў у жывой, пераканаўчай, дзейснай форме. Вось чаму карэспандэнцыю чыталі з вялікай цікавасцю і ўвагай самыя шырокія колы нашых чытачоў.

Актуальнасць тэматыкі, падбор пераканаўчых фактаў, паказ іх узаемнай сувязі, удалая літаратурная апрацоўка матэрыялу і галоўнае палітычная завостранасць — вось што надае асаблівую сілу і значэнне карэспандэнцыі. На гэта павінна звярнуць асноўную ўвагу рэдакцыя газеты, працуючы над карэспандэнцыямі як сваіх работнікаў, так і рабсялькораў.

---

# Ці толькі плагіят?

Перад намі два нумары газет — нумар ельскай газеты **«Большэвіцкі змагар»** за 12 кастрычніка і **«Рэчыцкай праўды»** за 16 кастрычніка. Як першы, так і другі нумары прысвечаны амаль цалкам апісанню ўрачыстасці ўручэння калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

Прачытваем спачатку ельскую газету «Большэвіцкі змагар». Першую паласу нумара займае артыкул «Зямля навечна».

Адкладваем прачытаны нумар «Большэвіцкага змагара» і чытаем нумар «Рэчыцкай праўды».

«Гаспадары зямлі» — так названы артыкул, змешчаны на першай старонцы «Рэчыцкай праўды». Пачынаецца артыкул словамі:

> **«Вёска была апранута па-святочнаму. Сонца кідала косыя праменні на маладыя, зялёныя хвоі, чырвоныя сцяжкі і лозунгі, якімі была ўпрыгожана вуліца».**

Але што такое? Амаль таксама пачынаецца артыкул «Большэвіцкага змагара», які мы толькі што прачыталі. Бярэм зноў нумар «Большэвіцкага змагара», параўноўваем. Вось пачатак артыкула з ельскай газеты:

> **«Сонца косыя праменні кідае на маладыя зялёныя хвойкі і чырвоныя флажкі, што расстаўлены ўздоўж вуліцы».**

Як бачыце, плагіятар з «Рэчыцкай праўды» не многа працаваў над тым, каб хоць крыху замаскаваць свой учынак.

Але закрадваецца думка: можа супадзенне? Бываюць-жа такія выпадковыя нечаканасці. Параўноўваем далей вытрымкі з артыкулаў двух газет.

У «Большэвіцкім змагары» чытаем:

> **«Калгаснікі — новыя гаспадары зямлі — апрануты ў святочную адзежу. Калгас «Рэволюцыя» святкуе — бурна, радасна святкуе гістарычнае свята».**

А вось адпаведнае месца з «Рэчыцкай праўды»:

> **«Калгаснікі — гаспадары зямлі — апрануты па-святочнаму. Калгас імя Дзяржынскага святкуе бурна, радасна сваё гістарычнае свята».**

Нахабнасць плагіятара з «Рэчыцкай праўды» дайшла да таго, што ён перапісаў з ельскай газеты выступленні калгаснікаў і раённых работнікаў на ўрачыстым сходзе.

> **«Зямля гэта паліта кроўю лепшых сыноў, — сказаў уручая акт старшыня РВК тав. Пышкало. — Яна заваёвана ў Кастрычніку і цяпер бясплатна і навечна ўручаецца вам»**

— чытаем у ельскім «Калгасным змагары».

> **«Зямля гэта паліта крывёй нашых лепшых сыноў. Яна заваявана ў Кастрычніку і цяпер бясплатна і навечна ўручаецца вам».**

— гэтыя словы прыпісвае «Рэчыцкая праўда» сакратару РК т. Маліну.

І далей:

> **«Я ўпэўнен, — канчаючы прамову, гаворыць тав. МАЛІНІН, — што вы ні вяршка гэтай свяшчэннай уласнасці нікому ніколі не аддадзіце».**

Але-ж слова ў слова так было напісана і ў ельскай газеце:

> **«Упэўнен, што ні вяршка гэтай свяшчэннай уласнасці вы не аддадзіце ніколі нікому».**

Розніца толькі ў тым, што гаварыў гэтыя словы не тав. Малінін, а старшыня ельскага РВК тав. Пышкало.

Усё гэта з'яўляецца яшчэ больш агідным, чым звычайны плагіят. Даны выпадак ёсць самае агіднае апашленне ў газеце «Рэчыцкая праўда» апісання сапраўды велізарнага свята ў калгасе імя Дзяржынскага, свята атрымання зямлі навечна. Ці можна прыдумаць гнюснейшы спосаб здзекаў з чалавека ў друку, чым прыпісаць яму тое, чаго ён не гаварыў?

Мы не можам тут назваць прозвішча плагіятара з рэдакцыі «Рэчыцкай праўды» — аўтара артыкула «Гаспадары зямлі», бо ён схаваўся пад псеўданімам **Міх. Блакітны.** Але мы ўпэўнены, што хто-б ён ні быў, яму не месца ў сценах рэдакцыі большэвіцкай газеты.

# Не тэхнічныя ляпсусы, а палітычныя памылкі

Гутарка ідзе аб класавай пільнасці — пярвейшай уласцівасці кожнага работніка большэвіцкага друку.

**Горацкая** раённая газета **«Ленінскі шлях»** змясціла справаздачу аб святкаванні 18-й гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі ў Маскве. Калі верыць газеце, то на правым крыле маўзалея на Краснай плошчы, сярод асоб вышэйшага камандавання Чырвонай арміі знаходзіўся нейкі Фралоў. На самой справе там быў начальнік морскіх сіл РСЧА флагман флота першага ранга тав. **В. М. Орлоў**. Рэдакцыя ўмудрылася ператварыць тав. Орлова ў Фралова і нават не палічыла патрэбным на наступны дзень выправіць уласную памылку.

**
*

**
*

Пісьманосец соўгаса «Гарадок» Абразоўскі дастаўляе адрасатам ускрытыя пісьмы і з вялікім спазненнем. **«Комунар Магілеўшчыны»**, змяшчаючы аб гэтым заметку, дае загаловак да яе: «Пісьманосец у ролі цэнзара». Таварышы з магілеўскай газеты, прычым тут цэнзар? Пісьманосец-жа **Абразоўскі** — злачынца, якога трэба прыцягнуць да крымінальнай адказнасці.

**
*

Культура ў газетнай рабоце азначае перш за ўсё высокую большэвіцкую прынцыповасць, праўдзівасць і сур'ёзнасць. Пошласць, сюсюканне — рэчы, несумяшчальныя з работай працаўніка совецкага друку.

Грамадзянка Сайкоўская змяніла ў сваім пашпарце год нараджэння. Вельмі добра робіць дзяржынская газета, калі паведамляе, што Сайкоўскую за гэта прыцягваюць да адказнасці. Другім надалей непаваднá будзе абыходзіцца падобным чынам з такім важнейшым дзяржаўным дакументам, як пашпарт. Але самай непраходнай пошласцю нясе, калі газета бярэцца тлумачыць прычыны, якія падштурхнулі Сайкоўскую зрабіць падробку. Рэдакцыя запэўняе, што яна змяніла ў пашпарце свой год нараджэння.

**«...з мэтай амалажэння (?) сябе для выхаду другі раз замуж».**

Далей, як кажуць, няма куды.

**
*

**«Віцебскі пролетарый»** у нумары ад 17 лістапада змясціў пісьмо жонкі рабочага **М. І. Хановіч.** Апошняя расказвае, як яе муж стаў стаханаўцам. Рэдакцыя прыпісвае т. Хановіч такі выраз:

**«Нават, калі запытаеш у нашай 6-гадовай Аі, хто яе бацька, яна з гордасцю адкажа: «с-т-а-х-а-н-а-в-е-ц».**

Ахвотна верым, што Ая ведае, хто яе бацька, але прымусіць-бы рэдактара тав. Фрэйдліна гаварыць слова «стаханавец» па метаду рэдакцыі, ён-бы тады ўпэўніўся ў тым, што не толькі 6-гадовае дзіцё, але і ні адзін дарослы чалавек не зможа так выгаварыць гэта слова.

**
*

Мы не памылімся, калі загадзя скажам, што частку памылак рэдактары абавязкова зваляць на друкарню, на вярстальшчыкаў і т. д. Ці не выходзячы з гэтага некаторыя нашы газеты сталі падпісваць апрача рэдактара ўсіх, хто робіць газету і ледзь не вартаўніка друкарні. Шматтыражку завода імя Ланцуцкага ў Гомелі падпісваюць метранпаж Ямпольскі і адказны рэдактар Орнадская. Узнікае пытанне, хто з іх усё-ж адказвае за газету?

# ДОШКА БРАКУ

## «ЛЕН ТРУЦЬ З ПЕЧАЎ»

Апошнія дасягненні тэхнікі.
Рыс. А. МАЛЕВІЧА.

— Як апрацоўваюць лён? — запытаем у адказнага рэдактара «Калгасніка Любаньшчыны» тав. **Зайцава.**

І т. Зайцаў безумоўна адкажа словамі з нумара 102 рэдагуемай ім газеты: **«ЛЁН ТРУЦЬ З ПЕЧАЎ».**

## ЗДАРЭННІ

Прапала граматнасць у газеце **«Калгаснік», Лоеўскага раёна.** Вось сведка:

**«ІЗЯТ АРМЯК. 20-Х на базары м. Лоеў райміліцыей былі затрыманы падазроныя асобы ў якіх быў із'ят армяк селянскага сукна гаспадаром якога яны сябе не прызналі.**

**Пацярпеўшаму ў прапажы армяка неабходна звернуцца ў райміліцыю».**

Куды звярнуцца пацярпеўшаму ад прапажы армяка ўжо вядома. А вось куды звярнуцца пацярпеўшым ад рэдактарскай няграматнасці? Тут ужо ніякая міліцыя не дапаможа!

Дарэчы, наконт пацярпеўшых. У іх ліку зусім нечакана апынуўся паэт Ізі Харык. Па волі рэдактара т. **Казлова** тав. Харык пачаў пісаць не вершы, а толькі **«дэкларацыі вершаў».** Гэта відаць з наступнай заметкі, надрукаванай у № 21 «Калгасніка»:

**«К вечару вучні рыхтуюць: дэкларацыі вершаў і спевы напісаныя Харыкам».**

## ФАКТ...

«Жывёлагадоўчая ферма без варот і кіраўніцтва». Такі загаловак дала над заметкай сіроцінская газета «Ленінскі шлях».

**Без варот кароўнік? Факт...**
**І сказаць пра гэта варта,**
**Але трэба, каб рэдактар**
**Быў пісьменным—гэта факт.**



Ферма ва ўяўленні работнікаў сіроцінскай раённай газеты.
Рыс. А. МАЛЕВІЧА.

### З апошняй пошты

# „З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ“

Па ініцыятыве рэдакцыі смалявіцкай газеты «Калгасная праўда» і бабруйскага аэраклуба быў арганізован агітаблёт на самалёце У-2 у перадавыя калгасы і сельсоветы раёна.

За некалькі дзён да пачатку агітаблёту ў раённай газеце з'явіліся падборкі аб значэнні агітаблёту. Газета пісала:

> «Права на прылёт самалёта атрымаюць тыя сельсоветы і калгасы, якія пакажуць узоры работы па апрацоўцы і здачы ільну дзяржаве і выкананню іншых гаспадарча-палітычных задач.
>
> Агітаблёт павінен з'явіцца стымулам для ўзняцця авіяцыйна-спартыўнай работы па нашаму раёну, для ўступлення калгасаў, сельсоветаў, прадпрыемстваў і ўстаноў у юрыдычныя члены аэраклуба».

У газеце з'явілася пісьмо лётчыка-інструктара А. Нікіціна аб юрыдычным членстве аэраклуба, аб ролі авіяцыі ў сельскай гаспадарцы. Змешчаная на старонках газеты невялічкая зводка расказвала, як вестка аб прылёце самалётаў ажывіла работу ў калгасах і паскорыла сельскагаспадарчыя работы. Рад калгасаў уступілі ў члены аэраклуба і ўнеслі па 100 руб. уступных узносаў.

У чарговым нумары газета друкуе заметку «Шырацца рады юрыдычных членаў бабруйскага аэраклуба». Дзесяткі калгасаў раёна адгукнуліся на заклік сваёй газеты і, уступіўшы ў члены клуба, калгаснікі пачалі вывучаць авіяцыйную справу. Газета ставіць перад калгасамі канкрэтную задачу—**«рыхтаваць добрыя пасадачныя пляцоўкі»**.

Ініцыятыву раённай газеты і аэраклуба па арганізацыі агітаблёту падтрымалі Асіпавіцкі РК КП(б)Б і райвыканком. І праз некалькі дзён над калгаснымі палямі Ясенскага і Свіслачскага сельсоветаў рэяў самалёт. На барту яго работнік раённай газеты. Тысячы лістовак, выданых раённай газетай, якія расказвалі аб ролі авіяцыі ў будаўніцтве і ахове нашай соцыялістычнай радзімы, раскідаліся з самалёта над калгасамі і вёскамі.



Калгасная праўда

Агітрэйс на самалёце У-2

Няхай жывуць савецкія пілоты—гордыя сокалы нашай радзімы! Моладзь—на самалеты! Вывучайце ў дасканаласці лётную тэхніку!

Аб разгортванні па раёну авіяцыйна-спартыўнай работы і членстве Бабруйскага аэраклуба

**Лістоўка выданая асіпавіцкай раённай газетай для распаўсюджвання з самалёта.**

Аб гэтым агітаблёце потым расказала раённая газета ў спецыяльным нарысе «З вышыні птушынага палёту».

## ПАПРАЎКА

У артыкуле «У Церахоўцы ўсё па-старому», змешчаным у № 18 нашага журнала, па віне аўтара **А. Астрэйка** дапушчана скажэнне фактаў. У артыкуле дырэктар конзавода тав. **Салдатаў** абвінавачваецца ў збіванні дзяцей работніцы Машуковай.

У сапраўднасці-ж збіў дзяцей Машуковай не тав. Салдатаў, а загадчык участка конзавода **Музыкін.**

Дзяржаўная бібліятэка БССР імені Леніна

**ЦАНА 50 кап.**

1121

# Змест



**Выдавецтва ЦК КП(б)Б «Звязда».** **Тэхрэдактар А. Матусевіч.**

Менск, друк. «Звязда». Зд. у набор 27-XI-35 г. Падп. да друку 4-XІ35 г. Уп. Галоўлітбела № 2963. Тыр. 1000 экз. 3 друк. арк. У арк. 75.000 зн.